12 кастрычніка 2018 | № 37 (600)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Адкуль пайшла вертыкаль
Стар.8

4 У ЧАКАННІ «ЧОРНАГА ЛЕБЕДЗЯ»



5 «МАРШЫРУЙ, ДЗЕТКА!»

Штогод у Беларусі фіксуецца 180 тысяч выпадкаў хатняга гвалту!



6–7 КУЛЯ ДЛЯ «ЧЫРВОНАГА ПАМЕШЧЫКА»

Яго забойства Лукашэнка назваў сведчаннем таго, што ў краіну прыйшла мафія. Але яно дагэтуль не раскрытае



11–12 У ПОШУКАХ РЭНАМЭ

Мы працягваем аповед паэта і грамадскага дзеяча Славаміра Адамовіча, які на ровары з'ездзіў на радзіму Зянона Пазняка і да Астравецкай атамнай станцыі

# Сем мільёнаў аўтаматаў

## Народнае апалчэнне супраць расійскай вайсковай базы?



Сяргей ПУЛЬША

«Калі ў нас будзе дастаткова стралковай зброі — аўтаматы, пісталеты, кулямёты і боепрыпасы да іх — не дай Бог вайна, мы раздадзім у кожную сям'ю. І мы будзем абараняць сваю тэрыторыю ўсімі... Ну, дзяцей давайце выведзем. Старыя і нават жанчыны, сем мільёнаў чалавек — сем мільёнаў атрымаюць зброю, каб яны маглі абараняцца», — гэты пасаж Лукашэнкі выклікаў фурор у айчыннай грамадскасці.

На палігоне ў Івацэвіцкім раёне кіраўнік краіны выказаў яшчэ шмат цікавых думак. Напрыклад, пра важнасць сіл спецыяльных аперацый, пра высокадакладныя ракеты, якія трапяць ворагу «ў фортку», і гэтак далей. Выснова ж гэтага спіча — прынамсі, для генералітэту — павінна быць даволі сумнай.

Калі Лукашэнка гатовы паставіць «пад ружжо» нават старых і жанчын, значыць, на беларускую армію ў плане абароназдольнасці ён не разлічвае. Сапраўды, ці можна давяраць войску, якое скаланаюць скандалы кшталту «справы Коржыча»? Прычым усім зразумела, што «справа Коржыча» — толькі вяршыня айсберга. Пасля яе на паверхню выплылі яшчэ некалькі падобных выпадкаў. А колькі яшчэ было схавана за мурамі вайсковых частак і ў тэчках ваеннай пракуратуры?

Не факт, што нашае войска ў выпадку агрэсіі будзе здольнае не тое што краіну абараніць. Шарагоўцы, атрымаўшы баявую зброю, могуць пачаць страляць не ў ворага, а ў тых, каго лічаць ворагамі яны, — у «дзядоў» і маладшых афіцэраў, якія доўгі час іх «кашмарылі». Гэта — лагічны працяг «дзедаўшчыны», і такія выпадкі былі нават у мірны час.

Але і заявы пра сем мільёнаў адзінак зброі — таксама даволі спрэчныя. Па-першае, варта было б правесці яе масавую інвентарызацыю. Яшчэ на слыху скандал (зноў на адрас арміі), калі афіцэр адной з вайсковых частак выносіў зброю проста ў торбах ды прадаваў, каб разлічыцца з пазыкамі. Колькі ў нас такіх афіцэраў? І колькі засталося зброі насамрэч?

Па-другое, мала «раздаць усім зброю». Трэба, каб гэтай зброяй людзі ўмелі карыстацца. Канешне, за савецкім часам кожнага хлопца вучылі збіраць-разбіраць аўтамат Калашнікава, але сістэма адукацыі з таго часу яўна змянілася.

Па-трэцяе, і самае галоўнае, — ці будуць беларусы сыходзіць у партызаны, як гэта было ў мінулым?

Вайна змянілася. Раней ваявалі за рэсурсы, тэрыторыю і жыццёвую прастору. Калі з рэсурсамі і тэрыторыяй і зараз усё ў парадку, то жыццёвая прастора ўжо нікога не цікавіць. Напрыклад, «адшчэпленыя» Расіяй Абхазія, Паўднёвая Асеція, Данбас і Крым варацца ва ўласных соках. Яны нецікавыя нават Расіі.

А таму ніхто не будзе масава знішчаць насельніцтва, паліць вёскі і дэпартаваць людзей, як гэта было ў часы Другой сусветнай вайны. Проста прыйдзе новая адміністрацыя і павесіць над дзяржаўным будынкам новы сцяг.

Да змены адміністрацый і сцягоў беларусы прызвычаіліся. А ва ўмовах адсутнасці яўных рэпрэсій з боку новай адміністрацыі ісці партызаніць — ніякай нагоды. Няма за што змагацца.

Даволі яскравай ілюстрацыяй гэтага ёсць праблема стварэння «войскаў тэрытарыяльнай абароны». Мы пра іх шмат чулі рознага — і нічога канкрэтнага. Ці створаныя яны? Як будуць дзейнічаць? Чым займацца? На якой стадыі падрыхтоўка? Адным з «найважнейшых дасягненняў» гэтых войскаў у 2017 годзе начальнік упраўлення тэрытарыяльнай абароны Генеральнага штаба Узброеных Сіл Беларусі генерал-маёр Сяргей Дудко назваў удзел гэтых войскаў у... парадзе на Дзень незалежнасці! Што за «пацешнае войска»?




Змагацца са зброяй у руках супраць захопнікаў будуць толькі актыўныя адзінкі. Але, да жалю кіраўніка краіны, гэтыя асобы знаходзяцца ад яго па іншы бок барыкад. Гэта, напрыклад, Мікалай Статкевіч, які зусім нядаўна абвясціў, што ён гатовы і да гвалтоўнага супраціву ў выпадку паглынання Беларусі Расіяй. Гэта хлопцы з «Белага легіёну», якіх прасавалі за патрыятызм. Не ведаю, ці возьмуцца за зброю фігуранты і фігурантки «справы БелТА», але яны змагаюцца і зараз: я неаднаразова казаў і паўтаруся, што іх праца — важны складнік інфармацыйнай бяспекі.

**Магчыма, Лукашэнка хоча адбіцца ад стварэння ў Беларусі расійскай базы. Маўляў, мы самі ў стане абараніць сябе**

Гэтым людзям дзейсны кіраўнік Беларусі раздасць зброю? Не думаю. А больш раздаць, падаецца, і няма каму...

Вынікае, што словы Лукашэнкі пра «зброю ў кожным доме» былі разлічаныя яўна не на беларусаў. Размова таксама не ідзе і пра пагрозу NATO. Менавіта ў расійскіх СМІ апошнім часам гучаць тэзы пра «паглынанне Беларусі», нават праз вайсковы сцэнар. І, як адзін з першых крокаў паглынання, эксперты разглядваюць стварэнне ў Беларусі паўнавартаснай расійскай вайсковай базы.

Магчыма, Лукашэнка хоча адбіцца менавіта ад гэтага — ад стварэння ў Беларусі расійскага вайсковага аб'екта. Маўляў, навошта нам ён, мы і самі ў стане абараніць сябе ад любой знешняй агрэсіі. І не трэба нам тут чужаземных салдат.

І ў гэтым плане абсалютна лагічнай з'яўляецца і другая яго фраза, сказаная на тым жа палігоне, і над якой ламаюць галовы аналітыкі: «Нават на Расію мы не можам на сто працэнтаў разлічваць». А калі не можам разлічваць — навошта тая база?

# Праваахоўнікі не пакідаюць у спакоі сваякоў Веранікі Чаркасавай

**Чарговым разам сілавікі ў цывільным заявіліся ў кватэру, дзе пражываюць маці і айчым загінулай журналісткі «Салідарнасці», а 7 раніцы 3 кастрычніка. Яны быццам шукалі сына Веранікі Чаркасавай.**

Айчым Веранікі Чаркасавай Уладзімір Мялешка распавядае, што званок у дзверы разбудзіў іх.

— Нармальныя людзі ніколі так не звоняць, — кажа маці журналісткі Дзіяна Цімафееўна. — А гэты званок ні з чым не зблытаеш. Звоняць людзі, якія хочуць унесці неспакой або страх.

Уладзімір Уладзіміравіч адчыніў дзверы. На парозе кватэры стаялі двое ў цывільным. На пытанні, у чым справа і хто яны, адзін з візіцёраў паказаў пасведчанне на імя Мудрага Мікалая Мікалаевіча.

Па словах Уладзіміра Уладзіміравіча, другі госць не паказаў дакумент не прадставіўся. Бацькі Веранікі Чаркасавай не ведаюць, супрацоўнікамі якога праваахоўнага органа з'яўляюцца людзі, якія прыходзілі да іх.

— Яны сказалі, што шукаюць Антона Мікалаевіча. Я адказаў, што тут такі не пражывае.

Уладзімір Мялешка звяртае ўвагу на тое, што супрацоўнікі няправільна назвалі імя па бацьку сына Веранікі Чаркасавай.

Гаспадар кватэры сказаў, што размова скончана, і зачыніў дзверы. Зноў пачуўся званок. Дзверы адкрылі, і супрацоўнік паставіў нагу так, каб яе немагчыма было зачыніць.

— Пыталіся, дзе Антон, прасілі даць яго кантакты. Усё, што мы ім далі, — назвалі нашы прозвішча, імя і гады нараджэння, — сказаў Уладзімір Уладзіміравіч. — Лічу, што ніякай размовы з імі быць не можа. Яны не ведаюць, куды ідуць, каго шукаюць. На нашы пытанні, з якой прычыны прыйшлі, сказалі, што іх паслала начальства.

Адзначым, што падобныя візіты праваахоўнікі наносяць бацькам Веранікі Чаркасавай кожны год, часцей за ўсё незадоўга да гадавіны забойства журналісткі.

— Сэнсу ў іх дзеяннях няма, — лічыць Дзіяна Цімафееўна. — Ім выдатна вядома, што мы нічога не ведаем, а калі б і ведалі, нічога не сказалі б. Мы старэем. Такі ўзрост, калі кожны найменшы стрэс дрэнна заканчваецца. Яны на гэта і разлічваюць. Чым больш зробяць гадасць, тым больш залічыцца.

Уладзімір Уладзіміравіч дадаў, што сустрэча з праваахоўнікамі здароўя ім з жонкай не дадасць. Айчым Веранікі паўтара месяцы правёў у лякарні: пасля чарговай хіміятэрапіі падхапіў пнеўманію і ледзь выкрабся.

— Гэта сістэма, — кажа Уладзімір Мялешка аб дзеяннях сілавікоў.

Журналістка «Салідарнасці» Вераніка Чаркасава загінула 20 кастрычніка 2004 года. Яе знайшлі ва ўласнай кватэры з 43-ма нажавымі раненнямі. Праз месяц пасля трагедыі грамадскасць шакавалі, абвясціўшы падазраванымі яе 15-гадовага сына Антона Філімонава і 63-гадовага айчыма загінулай Уладзіміра Мялешку. Вясной 2005 года падазрэнні з іх былі знятыя. Забойства дагэтуль не раскрытае.

**Паводле gazetaby.com**

# Чаму з сайта velcom знікла беларуская мова?

НЧ

**Наш чытач Аляксандр Кошаль звярнуў увагу, што сайт кампаніі velcom болей не мае беларускамоўнай версіі — толькі руская і англійская.**

«Даўно хацеў напісаць пра стаўленне сотавага аператара velcom да нацыянальнай мовы. Здаецца, і пераклад фільмаў фінансуюць на беларускую мову, і нейкія там чытанні ладзяць у школах на беларускай мове, але робіцца ўсё гэта неяк штучна і ненатуральна. І сёння я ў гэтым канчаткова пераканаўся, — напісаў Аляксандр у рэдакцыю. — Зайшоў сёння на сайт velcom і ўбачыў, што беларускую мову проста вырашылі выдаліць са спіса моў. Цяпер сайт падтрымлівае толькі дзве мовы — і гэта не беларуская і руская, а англійская і руская. Напэўна, кіраўніцтва кампаніі вырашыла, што беларуская мова для іх кліента зусім не перспектыўная і вырашыла выдаліць нават галоўную старонку са свайго сайта, якая, бадай што, адзіная была перакладзена на беларускую мову. Астатні тэкст прапаноўваўся на рускай мове. Але англійскую мову відавочна больш шануюць, чым беларускую, бо на яе перакладзены ўсе асноўныя старонкі сайта.

Хоць з памылкамі, але раней можна было ўбачыць хоць нешта на нацыянальнай мове. Вось сяджу і разважаю, чаму беларускую мову ўсё ж вырашылі выдаліць з сайта velcom, калі ў кампаніі ладзяць нейкія мерапрыемствы ў яе падтрымку. На маю думку, гэта звычайнае крывадушша і спосаб прапіярыцца сярод абанентаў, і зарабіць дадатковыя грошы, што, маўляў, вось, паглядзіце, як мы падтрымліваем нацыянальную мову. Колькі жыву ў гэтай краіне, столькі працягваю здзіўляцца таму, як нацыянальную мову стараюцца выціснуць з усіх сфер нашага жыцця. А яшчэ больш у мяне выклікаюць пагарду вось такія прадпрыемствы, як velcom, якія, карыстаючыся яе катастрафічным становішчам, спрабуючы атрымаць дадатковы піяр і грошы, пры гэтым насамрэч не паважаючы і ігнаруючы яе».

«Паважанае кіраўніцтва Velcom! — дадае чытач. — Я ведаю, што вы можаце адказаць, што ў нас у краіне дзве нацыянальныя мовы і, кіруючыся беларускім заканадаўствам, вы можаце самі выбіраць, на якія мовы перакладаць сайт. Толькі хачу вам нагадаць наступнае:

1. Як я пісаў вышэй, вы спрабуеце прасоўваць беларускую мову і піярыцца на ёй.

2. Беларуская мова з'яўляецца ў нашай краіне нацыянальнай, і кожнае прадпрыемства такога маштабу павінна мець версіі сайта на дзвюх нацыянальных мовах.

3. Паважайце абанентаў, якія размаўляюць не толькі на рускай і англійскай мовах. У нашай складанай моўнай сітуацыі яшчэ застаюцца людзі, якія хочуць бачыць старонку і тую ці іншую інфармацыю на тытульнай мове нацыі».

Сапраўды, выбар беларускай мовы на сайце velcom зараз адсутнічае, але версія https://www.velcom.by/be існуе, хоць і не абнаўлялася з 27 верасня. Мы звярнуліся ў кампанію velcom з пытаннямі наконт лёсу беларускамоўнай версіі сайта і атрымалі адказ.

«У цяперашні момант адбываецца перанос сайта velcom на новую платформу. Папярэдняя беларускамоўная версія сайта velcom.by па-ранейшаму даступная па прамой спасылцы https://www.velcom.by/be. Новая паўнавартасная беларускамоўная версія сайта пачне працаваць да канца гэтай восені. Мы прыносім свае прабачэнні абанентам за часовыя нязручнасці, — паведамілі ў прэс-службе кампаніі. — Беларускамоўная версія сайта будзе падтрымлівацца і далей».

Акрамя таго, адзначылі ў velcom, «падтрымка беларускай мовы і нацыянальнай культуры застаецца адным з асноўных напрамкаў карпаратыўнай сацыяльнай адказнасці velcom. Сярод буйных доўгатэрміновых праектаў кампаніі ў гэтай сферы — «Беларускія ўікэнды», «Чытаем па-беларуску з velcom», супрацоўніцтва з Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы. Беларуская мова актыўна ўжываецца ў іміджавай і рэкламнай камунікацыі, а таксама ў камунікацыі кампаніі ў сацыяльных сетках».

У будучыні кампанія разглядае магчымасць распрацоўкі беларускамоўнай версіі сістэм самаабслугоўвання абанентаў і шукае варыянты адпаведнага тэхнічнага рашэння.

# Чаму ўлады адмаўляюцца ад памяці пра БССР?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Варта сёння ўвесці ў пошукавік інтэрнэту нешта накшталт «100-годдзе ВЛКСМ» — і вы знойдзеце мноства інфармацыі аб тым, што ўсіх нас чакае ўжо бліжэйшым часам.**




Гэта праграмы святкаванняў на сайтах аблвыканкамаў, школаў, музеяў, аддзяленняў БРСМ. Чыноўнікі пастаянна пра гэта гавораць, пішуць, абмяркоўваюць на нарадах. То бок напрыканцы кастрычніка мы ўбачым нешта грандыёзнае: канцэрты, прысвечаныя камсамолу, марафоны памяці, флэшмобы, экскурсійныя аўтобусы...

Дык навошта нам той камсамол, які, здавалася б, сканаў разам з Савецкім Саюзам, і нават БРСМ не можа быць яго пераемнікам, бо паўстаў адно ў 1997 годзе як працяг БПСМ? Канешне, дзяржава ў нас перманентна трымаецца неакамуністычнай ідэалогіі, паўсюдна захавалася камуністычная тапаніміка, трактоўка гісторыі ў падручніках, Леніны на плошчах і г.д. Канешне, кіраўнік дзяржавы неаднойчы шкадаваў пра скон СССР і не хавае сімпатыяў да ўсяго савецкага. Канешне, нават кіраўнік Міністэрства адукацыі Карпенка ў нас — непрыхаваны камуніст. Аднак і тут ёсць свае «але».

Зусім хутка мы маем яшчэ адзін юбілей, а менавіта 100-годдзе БССР. Нагадаем, тая наша дзяржава паўстала 1 студзеня 1919 года. Чулі? Не?.. Сапраўды, пра гэта нідзе не кажуць, не пішуць, чыноўнікам, відаць, не да таго — камсамолам займаюцца. То-бок мала таго, што дзяржава праігнаравала 100-годдзе БНР, дык зараз мы назіраем такі ж ігнор датычна БССР. З БНР у прынцыпе ўсё можна патлумачыць лагічна. І 25 сакавіка як дата, і Пагоня, і БНР гадамі выкарыстоўваўся апазіцыяй, а бел-чырвона-белы сцяг дагэтуль страшыць насельнікаў высокіх кабінетаў.

Але што не так з БССР? Я асабіста не магу зразумець. Як можна пакласці мора рэсурсаў, высілкаў і часу на святкаванне юбілею нейкага камсамолу і не ўзгадаць пра 100-годдзе хай і камуністычнай, але беларускай дзяржавы? Гэта як святкаваць народзіны суседа, але забыцца на дзень нараджэння бацькі ці маці. Сорамна ж, праўда?

Калі БНР — гэта смелы праект нашай нацыянальнай дзяржавы, то БССР пры ўсіх «але» — менавіта праўбраз і фундамент сённяшняй Беларусі. Урэшце, ад чаго Рэспубліка Беларусь мае весці свой радавод, як не ад БССР? Часткова межы, адміністратыўная сістэма, нават сімволіка — усё адтуль. Ды і паклаўшы руку на сэрца нельга сказаць, што ў БССР усё было толькі са знакам «мінус»: урэшце наш народ перажыў, ператрываў крывавае XX стагоддзе менавіта ў складзе і ў межах гэтага фармавання, не скаціўся да ўзроўню этнаграфічнай масы, што немінуча здарылася б у складзе Польшчы ці Расіі. А значыць, БССР для ўсіх нас мела свой сэнс, значыць — гэта таксама наша.

Дзіўна, што ігнаруюцца пасылы нават дзяржаўных ідэолагаў, якія выйшлі з нацыянальнага асяродку. Размова пра цэлую кагорту герояў беларускага ТБ, накшталт таго ж Марзалюка, якія паслядоўна гадамі казалі пра БССР замест БНР, Прытыцкага замест Луцкевіча, стужку арнаменту замест бел-чырвона-белага сцягу і г.д. Такая хада думкі выглядала прынамсі лагічнай і вытлумачальнай — нешта накшталт нацыянал-камунізму замест нацыянал-дэмакратыі. Атрымліваецца, што прыстаўка «нацыянал» у прынцыпе дзяржаве не патрэбная?..

Як бы там не было, БССР — гэта пра незалежнасць. А камсамол — пра што? Правільна, пра «слаўнае савецкае мінулае са смачным марозівам, блакітным небам і зялёнай травой» — усяго толькі. А калі сур'ёзна, то камсамол — гэта яшчэ і пра «агульную савецкую радзіму», на ролю пераемніцы якой сёння прэтэндуе Расія... Дык можа варта задумацца, што мы святкуем, навошта і каму з таго будзе карысць?

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як манетызаваць правы чалавека?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На гэтым тыдні здарылася нешта неверагоднае. Беларусь упершыню больш чым за 20 гадоў вырашыла даць у ААН справаздачу па выкананні краінай Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.**

Упрынцыпе, такую справаздачу мы, як краіна, што падпісала гэты дакумент, павінны даваць больш-менш рэгулярна. Аднак гэтага не рабілі — самі ведаеце з якой прычыны. Зараз усё ж наважыліся — і атрымалі тое, што атрымалі. У ААН да нас існуе вельмі шмат пытанняў.

Пытанні тыя, пра якія ўнутры Беларусі мы кажам шмат разоў. Гэта, напрыклад, прымусовая праца, гвалтоўнае знікненне людзей, прымяненне катаванняў у турмах і не толькі, адсутнасці ў Крымінальным кодэксе асобнага артыкула за прымяненне гэтых катаванняў і жорсткага абыходжання, заканадаўства пра хатні гвалт, нядаўна «зарубленае» Лукашэнкам, адвольныя затрыманні, свабода сходаў, збораў, асацыяцый, свабода прафсаюзаў, праблема выканання рашэнняў КПЧ, прыцягненне жанчын да кіравання дзяржавай... Карацей, усяго не пералічыш. Падаецца, блок пытанняў да нашай краіны па аб'ёме ўдвая (калі не ўтрая) перавышаў аб'ём самой справаздачы.

Зразумела, беларускім дыпламатам давялося выкручвацца. Афіцыйныя прадстаўнікі Беларусі ўхіляліся ад многіх пытанняў Камітэта па сутнасці, давалі павярхоўныя адказы, замоўчвалі праблемы. Праваабаронца Валянцін Стэфановіч, які прымае ўдзел у працы сесіі Камітэта ААН па правах чалавека, адзначыў, што прадстаўнікі Беларусі ўхіляліся ад адказу на многія пытанні, зададзеныя Камітэтам, заяўляючы пры гэтым, што нацыянальнае права першаснае ў адносінах да міжнароднага (хаця Канстытуцыя краіны кажа пра адваротнае).

Дырэктар Цэнтра прававой трансфармацыі Lawtrend Вольга Смалянка выказалася ў фэйсбуку яшчэ больш лаканічна: «Беларуская дэлегацыя кінула выклік КПЧ. Коратка: наша нацыянальнае права мець свой погляд на тое, як прымяняць працэдуры ў рамках Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах».

Навошта ж тады беларускай дыпламатыі спатрэбіліся гэтыя два дні ганьбы? Ці не лягчэй было праігнараваць справаздачу, як гэта і было 20 гадоў запар?

Відавочна, што краіна губляе назапашаны ў выніку вайны на Данбасе аўтарытэт міратворцы на міжнароднай арэне. «Мінскія пагадненні» застапарыліся, а з іншымі ініцыятывамі нешта не вельмі атрымліваецца.

Напрыклад, Лукашэнка ў чарговы раз паразмаўляў з генсекам АБСЕ Томасам Грэмінгерам. І той паведаміў беларускаму кіраўніку, што для амбіцыйнай беларускай ініцыятывы «Хельсінкі–2» яшчэ не надышоў зручны час.

«Гэта вельмі цікавая ініцыятыва, думаю, нам неабходна ацаніць, калі будзе зручны час для яе запуску. Пакуль гэта дзень не наступіў», — сказаў Грэмінгер тэлеканалу «Беларусь-1» і дадаў, што «давер паміж асноўнымі ўдзельнікамі працэсу, забеспячэнне еўраатлантычнай бяспекі знаходзіцца на такім нізкім узроўні, што, баюся, асноўныя гульцы проста не гатовыя далучыцца».

То бок, Сінявокая наперадзе ўсяго свету і апярэдзіла час. Аднак такія кампліменты ў келіх не нальеш і ў кішэню не пакладзеш. А нам вельмі хочацца (і трэба), каб у гэтай кішэні нешта было.

Пакуль міжнароднае рэйтынгавае агенцтва Standard & Poor's Global Ratings пацвердзіла доўгатэрміновыя і кароткатэрміновыя суверэнныя крэдытныя рэйтынгі Беларусі па абавязацельствах у нацыянальнай і замежнай валютах «B/B». То бок, крэдытная сітуацыя ў нас не добрая, але стабільная. Аналітыкі мяркуюць, што знешнеэканамічныя дысбалансы краіны не павялічацца, грашова-крэдытная палітыка будзе заставацца параўнальна стрыманай, а ўрад захавае доступ да рынкаў капіталу і будзе атрымліваць падтрымку ад урада РФ для рэфінансавання дзярждоўгу.

**Два разы ў тэксце Standard & Poor's звязвае нашу эканамічную бяспеку з дзеяннямі Расіі, у якой санкцыі за санкцыямі. «Стабільны» рэйтынг можа пахіснуцца ў любы момант. Нам хацелася б адысці ад нашага «старэйшага брата». Але іншыя грошай не даюць, таму што мы выглядаем непрывабна сярод прыстойных людзей**

«Мы можам знізіць рэйтынг, калі выкананне планаў рэфінансавання доўгу апынецца пад пагрозай, напрыклад, у сувязі са зменай палітыкі Расіі ў дачыненні да падтрымкі Беларусі як у эканамічнай, так і ў палітычнай сферы», — сярод іншага адзначаецца ў паведамленні агенцтва.

Разумееце? Два разы ў адным тэксце Standard & Poor's звязвае нашу эканамічную бяспеку з дзеяннямі Расіі. У якой, між іншым, крызіс за крызісам і санкцыі за санкцыямі. А таму «стабільны» рэйтынг можа пахіснуцца ў любы момант.

Зразумела, што нам хацелася б адысці ад нашага «старэйшага брата» некуды падалей. Але ж іншыя грошай не даюць, таму што мы непрывабна выглядаем сярод прыстойных людзей. То хатні гвалт вітаем, то працоўных ці не ў прыгон прадаём... З такім іміджам трэба нешта мяняць. І таму спатрэбіліся і «Хельсінкі–2», і Камітэт па правах чалавека ААН. Так, крышачку нас там зганьбілі, але зараз мы можам казаць, што мы прадставілі справаздачу ў КПЧ ААН, як цывілізаваныя людзі. А пра тое, як яна была ацэненая і прынятая — прамаўчым.

А з Расіяй мы хутка расплюемся з яшчэ адной нагоды. Мінфін Беларусі рыхтуе дакументы для перамоваў з Мінфінам РФ па пытанні зніжэння працэнтнай стаўкі па крэдыце на будаўніцтва беларускай АЭС. Пра гэта паведаміў міністр энергетыкі РБ Віктар Каранкевіч.

Гэта простае выкананне словаў Лукашэнкі пра тое, што запуск БелАЭС пераносіцца па віне расійскага боку. І таму трэба спагнаць з іх «неўстойку». Цікава тое, што падрадчыкі будаўніцтва з усходу адпрэчваюць усе абвінавачванні: па іх словах, будоўля ідзе па графіку і першае паліва на АЭС будзе завезенае гэтай зімой.

І пытанне тым больш цікавае, што, па словах таго ж Каранкевіча, Беларусь і Расія да ліпеня наступнага года распрацуюць дакумент аб фармаванні цаны на расійскі газ для Беларусі на перыяд да 2025 года. У красавіку 2017 года дзве краіны падпісалі дакументы, якія знялі рознагалоссі ў нафтагазавай сферы. На 2018 і 2019 гады Мінск атрымаў больш нізкую цану на газ — 129 і 127 долараў за тысячу кубаметраў адпаведна.

Дэ-факта гэта азначае, што Лукашэнку так ніхто і не патлумачыў, якім чынам беларуская АЭС будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны. Гэтага дасюль ніхто не ведае.

А таму на першы погляд абсурдная прапанова некаторых гарачых галоваў выкарыстоўваць яе для майнінгу крыптавалютаў можа стаць рэальнасцю. Бо ні для чаго іншага АЭС прыдатная не будзе.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Вольга Кавалькова

**Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» заявіла пра сваё жаданне балатавацца ў прэзідэнты. Нягледзячы на тое, што прайграла ўнутрыпартыйны праймерыз Паўлу Севярынцу.**



Кавалькова адзначыла, што ў БХД яна з 2011 года, займалася рознымі грамадскімі кампаніямі, сярод якіх «У абарону жыцця», «Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю», «За пенсійную рэформу», «За якасную медыцыну», «За бел-чырвона-белы сцяг», «За судовую рэформу».

«Пры маім непасрэдным удзеле было распрацавана нямала заканадаўчых ініцыятыў, якія я прасоўвала пры падтрымцы партыі. Акрамя актыўнай юрыдычнай дзейнасці, я ўдзельнічала ва ўсіх палітычных акцыях партыі. У нас ёсць пасяховыя кампаніі, а гэтым можа пахваліцца не кожная беларуская партыя. І гэта, у тым ліку, і маё дасягненне», — адзначае яна.

«Я ўпэўнена, што БХД можа быць платформай, якая аб'ядноўвае не толькі хрысціянаў. Ідэалогія БХД дазваляе кожнаму сябе адчуваць камфортна і дае такія магчымасці для развіцця чалавека, якіх больш няма ні ў адной іншай партыі», — кажа Кавалькова.

Нагадаем, што раней пра прэзідэнцкія амбіцыі заяўлялі Тацццяна Караткевіч і Ганна Канапацкая.



## Віктар Юшчанка

**Былы прэзідэнт Украіны разлічвае заняць месца Кучмы ў перамовах па ўрэгуляванні канфлікту на Данбасе.**

Юшчанка лічыцца фаварытам у барацьбе за пасаду прадстаўніка Кіева ў трохбаковай кантактнай групе па ўрэгуляванні канфлікту ў Данбасе. У гэтай сувязі адбылася сустрэча былога прэзідэнта Украіны з кіраўніком Беларусі. Калі Юшчанка будзе зацверджаны ў новым статусе, то стане шмат часу праводзіць у Мінску, дзе ідуць перамовы.

Сённяшні Юшчанка жорстка крытыкуе Расію. Нядаўна ў інтэрв'ю польскай прэсе ён заявіў, што Расія адказная за шэсць канфліктаў ва Усходняй Еўропе: у Нагорным Карабаху, Паўднёвай Асеціі, Абхазіі, Прыднястроўі, Крыме і Данбасе. Юшчанка лічыць, што канфлікт у Данбасе не з'яўляецца нацыянальным, таму для яго ўрэгулявання павінны прайсці шматбаковыя перамовы з удзелам тых, хто і стаў яго аўтарам. Не выключае ён і ўдзелу ў гэтых перамовах ЗША.

Два тыдні таму экс-прэзідэнт Украіны заявіў, што Мінскія пагадненне аб урэгуляванні канфлікту ў Данбасе не дзейнічаюць, і іх неабходна замяніць больш мадэрнізаваным дакументам.

Адначасова Юшчанка з'яўляецца кумам дзейнага кіраўніка Украіны Пятра Парашэнкі.

## Надзея Скардзіна

**Беларуская зорка біятлону, алімпійская чэмпіёнка Пхенчхана–2018 узначаліць новую радыёстанцыю «Спорт ФМ». Дакументы на рэгістрацыю ўжо пададзеныя.**



Упрофільныя ведамствы ўжо паступае дакументацыя на рэгістрацыю новага спартыўнага СМІ, якое збіраецца запоўніць даўно пустую нішу ў беларускай медыяпрасторы. Радыёстанцыя будзе прысвечана спорту, сярод заснавальнікаў кампаніі значацца былыя і дзеючыя вядомыя беларускія атлеты.

Надзея Скардзіна пацвердзіла, што праца па стварэнні спартыўнай радыёстанцыі ідзе. Што тычыцца кантэнту, па словах біятланісткі, «сплаў паспяховых атлетаў і вядучых спартыўных журналістаў з'яўляецца закладам таго, што прадукт павінен быць прафесійным і, вядома, вельмі б хацелася, каб і папулярным, а значыць, паспяховым».

Варта зазначыць, што раней свае радыёстанцыі планавалі адкрыць некаторыя недзяржаўныя СМІ — у прыватнасці, БелаПАН. На аднаўленне таксама спадзявалася закрытае па палітычных прычынах у 2010 годзе «Аўтарадыё». Аднак Міністэрства інфармацыі ўвесь час сцвярджала, што для новых FM-станцый няма вольных частотаў. Наколькі «няма вольных частотаў», мы пабачым, калі адкрыецца (ці не адкрыецца) «Спорт ФМ».

# Апазіцыя і выбары

## У чаканні «чорнага лебедзя»

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Паводле Канстытуцыі, прэзідэнцкія выбары павінны прайсці ў 2020 годзе. Датэрміновыя выбары магчымыя толькі пры ўмове, калі дзейны кіраўнік па нейкіх прычынах не зможа выконваць свае абавязкі. Але ж у Беларусі Канстытуцыя нікому не цікавая. Старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына не раз казала, што выбары кіраўніка дзяржавы могуць перанесці на 2019 год, каб развесці з парламенцкімі.**



Таму калі пройдуць прэзідэнцкія выбары, нікому не вядома. Улады наводзяць тýману. Тая ж Ярмошына кажа, што рашэнне не прынятае. Упершыню за ўсю найноўшую гісторыю Беларусі сітуацыя з тэрмінам правядзення прэзідэнцкай кампаніі такая заблытаная.

Гэта не адзіная асаблівасць выбараў. Ёсць яшчэ некалькі адметных момантаў.

Варта адзначыць той палітычны кантэкст, у межах якога пройдзе прэзідэнцкая кампанія. Найперш, гэта значная, заўважная страта даверу грамадства да існага палітычнага рэжыму і яго кіраўніка. Эфект ад украінскага крызісу, які моцна мікшыраваў незадаволенне насельніцтва, прайшоў. Беларусь перажыла два гады крызісу (2015–2016), падзенне ўсіх сацыяльна-эканамічных паказчыкаў. Існуе моцны песімізм адносна здольнасці Лукашэнкі нешта тут палепшыць. Плюс моцны негатыўны эфект ад дэкрэту аб дармаедах. Грамадства ўжо стамілася ад безнадзейнасці, названай «стабільнасцю», і псіхалагічна саспела да пераменаў, саспела да таго, каб прагаласаваць на выбарах за новага чалавека на пасадзе прэзідэнта.

Яшчэ трэба дадаць адзін штрых. Моцна памянялася пазіцыя Захаду. Ва ўмовах геапалітычнага крызісу ў рэгіёне, Еўрасаюз фактычна ўзяў курс на захаванне «стабільнасці» ў Беларусі. Падтрымка апазіцыі мінімізавалася. Для Еўропы цяпер галоўнае, каб прэзідэнцкая кампанія прайшла мірна, каб апазіцыю моцна не білі, каб па яе выніках не з'явіліся новыя палітвязні.

Не думаю, што Расія будзе моцна ўмешвацца ў беларускія выбары. Як бачым, Крэмль дрэнна кантралюе нават губернатарскія выбары ў сваёй краіне (скандальны казус з выбарамі ў Прымор'і).

Апазіцыя таксама рыхтуецца. Ужо сёння некалькі палітыкаў абвясцілі пра сваё імкненне ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах.

Толькі Правацэнтрысцкая кааліцыя, якая ўключае ў сябе Аб'яднаную грамадзянскую партыю, аргкамітэт партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і рух «За Свабоду» 25 верасня абвясціла аб падрыхтоўцы да парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў і намеры вылучыць адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад імя сваёй структуры. І ўжо з'віліся прэтэндэнты.

Пра свой намер удзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі аб'явіла дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая. Але наўрад ці яна будзе вылучацца ад Правацэнтрысцкай кааліцыі, бо моцна сапсавала адносіны са сваёй партыяй — АГП.

Нацыянальная Рада БХД вылучыла ў якасці патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты сустаршыню Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Паўла Севярынца. Аднак гэта не канчатковае рашэнне. На гэты статус таксама прэтэндуе сустаршыня БХД Вольга Кавалькова.

Ад руху «За Свабоду», хутчэй за ўсё, будзе вылучацца яго лідар Юрый Губарэвіч.

Трохі раней пра цвёрды намеры вылучаць свайго кандыдата заявіла кампанія «Гавары праўду». Гледзячы па ўсім, гэтым кандыдатам будзе Андрэй Дзмітрыеў.

Партыя БНФ збіраецца ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах асобна. Хутчэй за ўсё, кандыдатам будзе вылучаны намеснік старшыні партыі Аляксей Янукевіч.

А ёсць жа яшчэ левыя сілы: партыя «Справядлівы свет», сацыял-дэмакраты. Можна меркаваць, што ад іх таксама будзе вылучаны прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта.

Ну і дзяжурны кандыдат Гайдукевіч. Гэтым разам — малодшы: Алег Гайдукевіч.

Усё гэта нагадвае 2010 год, калі на фінішы кампаніі аказалася 10 кандыдатаў.

На мой погляд, неабходнай, хоць і недастатковай умовай электаральнай перамогі апазіцыі над Аляксандрам Лукашэнкам з'яўляецца вылучэнне адзінага кандыдата.

Тэзіс пра адзінага кандыдата, які павінен супрацьстаяць А. Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах, даўно стаў культавым, ператварыўся ў аксіёму. Гэта адпавядае, па-першае, логіцы палітычнага працэсу. Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму яго апаненты не могуць дазволіць сабе раскошу плюралізму ў асяроддзі апазіцыі, якая заўсёды разнародная. Некалькі кандыдатаў ад шырокага спектру палітычных сіл магчыма толькі ва ўмовах дэмакратыі. Зрэшты, і ў дэмакратычнай сістэме вельмі часта з-за тактычных меркаванняў ствараюцца кааліцыі і аб'яднанні. У перыяд аўтарытарызму сілы апазіцыі знаходзяцца ў няроўных умовах, заўсёды маюць абмежаваныя магчымасці мабілізацыі сваіх рэсурсаў. Таму логіка палітычнай барацьбы натуральным чынам дыктуе неабходнасць аб'яднання ўсіх апазіцыйных сіл вакол адзінага кандыдата.

Па-другое, ідэя адзінага кандыдата арганічна выцякае з беларускага менталітэту. У свядомасці нашага грамадства палітыка моцна персаніфікаваная. Палітычныя ідэі ўспрымаюцца насельніцтвам у асноўным праз іх носьбітаў. І ідэя пераменаў, збавення Беларусі ад Лукашэнкі можа ператварыцца ў пераможную палітычную сілу толькі ў звязку з канкрэтным чалавекам.

Попыт на палітычную альтэрнатыву можа задаволіць толькі адзіны кандыдат. Калі такіх альтэрнатыў будзе некалькі, то насельніцтва, якое прызвычаілася да простых адказаў на складаныя пытанні, заблытаецца і не пойдзе на выбары.

Перавага адзінага кандыдата палягае таксама ў тым, што ён адразу атрымоўвае больш за 20 працэнтаў падтрымкі дэмакратычнага электарату і можа нарошчваць падтрымку за кошт грамадзян, што не вызначыліся.

Аднак пакуль гэтая ідэя не падтрымліваецца ў апазіцыйным асяроддзі. Пытанне пра адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў фактычна знятае.

Паводле майго адчування, галоўная адметнасць настрояў у апазіцыі палягае ў тым, што ніхто не ставіць пытанне пра Перамогу. Усе плануюць толькі «сагрэцца». Ніхто асабліва не хавае, што падчас гэтай кампаніі апазіцыя будзе вырашаць свае ўнутраныя, партыйныя, карпаратыўныя ці, можа, нават асабістыя піяраўскія задачы. Вось у нядаўняй перадачы на «Радыё Свабода» Аляксей Янукевіч, разважаючы на тэму адзінага кандыдата ад апазіцыі, заявіў: «Лепей мы самі не збяром подпісы, чым збіраць подпісы ў такім вінегрэце».

Сустаршыня кампанія «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў падводзіць пад свой сепаратызм цэлую сістэму аргументацыі, спрабуе давесці, што шмат кандыдатаў ад апазіцыі лепш, чым адзіны кандыдат.

Дарэчы, паводле маіх ацэнак, калі апазіцыя пойдзе ў такім растапыраным выглядзе, то неабходных 100 тысяч подпісаў не збярэ ніхто. Як гэта адбылося падчас выбараў 2015 года. Бо кампанія будзе адбывацца фактычна без грошай. І такая сітуацыя вельмі выгадная ўладзе, бо яна атрымае магчымасць сама выбіраць сабе найбольш зручнага кандыдата апазіцыі.

То бок, мы назіраем такі гістарычны парадокс, дысананс. У момант, калі грамадства найбольш гатовае да пераменаў за ўвесь час кіравання Лукашэнкі, яго палітычныя апаненты аказаліся найменш гатовыя, каб узначаліць гэты працэс, і фактычна адмовілася ад барацьбы за перамогу.

Паўтаруся, пакуль толькі Правацэнтрысцкая кааліцыя будуе супольную стратэгію. Яна прапануе правесці праймерыз. Ідэя вельмі цікавая. Іншая справа, ці спрацуе гэты сцэнар ва ўмовах сённяшняй Беларусі.

Праблема праймерыз не толькі ў тым, што цяжка стварыць, адпрацаваць патрэбны механізм, адпаведныя працэдуры, якія б задавальнялі ўсіх удзельнікаў. Прычым усю гэтую кампанію давядзецца праводзіць ва ўмовах жорсткага процідзеяння ўладаў.

Галоўная ахілесава пятка ідэі праймерыз у Беларусі палягае ў тым, што ў гэтай працэдуры зможа ўдзельнічаць толькі вузкае кола апазіцыйных актывістаў. Разлік лідараў Правацэнтрысцкай кааліцыі на далучэнне да згаданай кампаніі шырокай грамадскасці падаецца няслушным. Для абывацеля ўдзел у апазіцыйнай акцыі пад дамоклавым мячом рэпрэсій — гэта амаль подзвіг. Да таго ж палітызацыя грамадства невялікая, людзі не вераць у выбары, таму прыцягнуць староннiх людзей да вызначэнне адзінага кандыдата апазіцыі будзе складана.

А калі ў праймерыз будуць удзельнічаць толькі актывісты апазіцыі, то тут узнікае іншая праблема. Яны выберуць адзіным кандыдатам палітыка, які найбольш да спадобы самім апазіцыянерам. Але ці можа такі чалавек спадабацца большасці беларускага электарату? Гэта вялікае пытанне. Рэйтынгі, папулярнасць усіх апазіцыйных лідараў невялікія. Галоўная іх хіба — гэта адсутнасць біяграфіі, прымальнай для насельніцтва, найперш, адсутнасць сур'ёзнага кіроўнага досведу.

То бок, шмат прыкметаў таго, што краіну чакаюць самыя сумныя прэзідэнцкія выбары. Ну, калі раптам, нечакана не прыляціць нейкі «чорны лебедзь».



Фота www.hyser.com.ua

# «Маршыруй, дзетка!»

Дзіяна ПІНЧУК

**Удзельнікі і ўдзельніцы суполкі ў фэйсбуку «Маршыруй, дзетка!» 8 кастрычніка сабраліся ў мінскай галерэі «Ў», каб абмеркаваць адхілены кіраўніком краіны закон аб супрацьдзеянні хатняму гвалту.**

### З якой нагоды?

Выбух грамадскай свядомасці адбыўся 5 кастрычніка, калі кіраўнік Беларусі жорстка раскрытыкаваў праект закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту з прыкладамі з уласнай сям'і. «Гэта ўсё дурасць, узятая перш за ўсё з Захаду», — заявіў Лукашэнка.

Беларуская грамадскасць адрэагавала імгненна. Адразу ж у сацыяльных сетках пачаўся флэшмоб: людзі пачалі дзяліцца гісторыямі пра гвалт з уласнага жыцця. Як рэакцыя на словы Лукашэнкі, у той жа вечар была створана закрытая суполка ў фэйсбуку «Маршыруй, дзетка!», якая за суткі сабрала каля тысячы ўдзельнікаў. На дадзены момант у ёй налічваецца больш за 1700 чалавек.

На выходных невядомыя ў мінскім парку Горкага развесілі акрываўленую жаночую бялізну з надпісамі «Міліцыя цябе не абароніць», «Кожнае чацвёртае жаночае самагубства ў РБ — наступства гвалту ў сям'і», «#традыцыйная сям'я» і гэтак далей.

Стала зразумела: у неабыякавых людзей існуе неабходнасць сустрэчы, каб падзяліцца думкамі і ідэямі ці проста выказацца па балючай тэме. Таму стваральнікі суполкі «Маршыруй, дзетка!» вырашылі паспрабаваць арганізаваць такую сустрэчу. У выніку атрымаўся велізарны водгук: неабыякавых людзей сабралася амаль поўная зала.

Цікава, што ў гэты ж дзень у Камітэце па правах чалавека ААН праходзіла абмеркаванне, дзе афіцыйны прадстаўнік Беларусі адзначыў, што ў дадзены момант згодна з Нацыянальным планам падрыхтавана і ўнесена на разгляд канцэпцыя закона аб хатнім гвалце. Пры гэтым прадстаўнік урадавай дэлегацыі ніяк не згадаў пазіцыю кіраўніка краіны.

Таксама трэба адзначыць, што ў Міністэрства ўнутраных спраў ад працоўнай групы была накіравана толькі канцэпцыя, якая не змяшчала канкрэтных нормаў. На сустрэчы адна з яе аўтарак, Ірына Альхоўка, адзначыла, што невядома, у якім выглядзе канцэпцыя законапраекта трапіла ў Адміністрацыю прэзідэнта. Няма інфармацыі, ці ўнасілі ў яе нейкія змены і дапаўненні.

### Чаму дзеючага заканадаўства недастаткова?

У Беларусі існуе Закон «Аб асновах дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў», які змяшчае некаторыя палажэнні пра гвалт у сям'і. Але, як адзначыла сябра Нацыянальнай рады ў гендарнай палітыцы Ірына Альхоўка, гэты закон перш за ўсё мае праваахоўны характар і быў створаны для органаў унутраных спраў.

«Характар закона не дазваляе казаць аб хатнім гвалце як аб сур'ёзнай сацыяльнай крыміналагічнай праблеме», — падкрэслівае аўтарка канцэпцыі.

Цяпер, каб атрымаць абарону ад хатняга гвалту, трэба, каб чалавека прызналі ахвярай два разы за каляндарны год. І толькі ў такім выпадку агрэсару будзе вынесена афіцыйнае папярэджанне і ахоўнае прадпісанне.

«Гэта даволі абсурдная і неэфектыўная мера, з чым згадзілася і МУС», — пракаментавала такі прававы механізм Ірына Альхоўка. То бок, ужо ўсе прыйшлі да высновы, што існуючыя прававыя палажэнні не працуюць.

Экспертка адзначала і іншыя недахопы беларускага заканадаўства. Прыняцце закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту запоўніла б існуючыя прававыя прабелы. Напрыклад, канцэпцыя прадугледжвала механізм абароны правоў пацярпелых ад гвалту, эканамічнага гвалту, гвалту ад былых мужоў ці жонак, а таксама ацэнкі рызыкі, тэрапіі і іншыя.

Закон аб хатнім гвалце існуе ва ўсіх постсавецкіх краінах, акрамя Беларусі і Расіі.

### А практыка з гэтым не спраўляецца?

Праблема ў тым, што на практыцы ў адносінах да пытання хатняга гвалту існуюць «двайныя стандарты». Калі гвалт здзейсніў нейкі староннi чалавек, то ён, хутчэй за ўсё, панясе адказнасць. Калі ж гвалт учыніў дома блізкі чалавек — наўрад ці.

У МУС штогод фіксуюцца 180 тысяч інцыдэнтаў хатняга гвалту, але толькі 50% агрэсараў будуць прыцягнутыя да адказнасці. Трэба ўлічваць і тое, што ў гэтым пытанні — вялікая латэнтнасць. Ахвяры баяцца звяртацца ў праваахоўныя органы.

У поўнай меры немагчыма і зразумець маштабы праблемы хатняга гвалту ў Беларусі. Незразумела, што ў краіне лічыцца інцыдэнтам: толькі зарэгістраваны выпадкі хатняга гвалту ў юрыдычнай сістэме ці вынікі сацыялагічных даследаванняў. Гэта не дазваляе выпрацаваць у поўнай меры эфектыўныя механізмы супрацьдзеяння хатняму гвалту.

У Беларусі мінімальна праводзіцца праца па прафілактыцы хатняга гвалту. Участковыя, што прыходзяць у сям'ю па Дэкрэце №18 «Аб дадатковых мерах па дзяржаўнай абароне дзяцей у няўдалых сем'ях», не праводзяць ніякіх выхаваўчых мер. Як адзначаюць эксперты, «калі за тры хвіліны задаецца 15 пытанняў, то наўрад ці можна рэальна ацаніць рызыкі пагрозы». То бок, нават на практыцы ў выкананні законаў узнікае шмат праблем.

### Закон аб супрацьдзеянні хатняму гвалту будзе абараняць толькі дзяцей?

Тое, што закон аб супрацьдзеянні хатняму гвалту будзе абараняць толькі дзяцей, — адзін з распаўсюджаных стэрэатыпаў. У колах працаўнікоў гэтай канцэпцыі ён вядомы як «закон аб плескачах». Але насамрэч канцэпцыя накіраваная на ўсіх суб'ектаў. То бок, закон будзе распаўсюджвацца на ўсіх, незалежна ад узросту.



**На практыцы ў адносінах да пытання хатняга гвалту існуюць «двайныя стандарты». Калі гвалт здзейсніў нейкі староннi чалавек, то крыўдзіцель, хутчэй за ўсё, панясе адказнасць. Калі ж гвалт учыніў дома блізкі чалавек — наўрад ці**

### Якія канкрэтныя дзеянні былі прапанаваныя?

Кожны чалавек на гэтай сустрэчы выступаў экспертам і эксперткай, прапаноўваў ідэі, сыходзячы з уласнага досведу. З прапановамі выступілі каля 30 чалавек.

Вольга Гарбунова, стваральніца першага ў Беларусі прытулку для ахвяраў хатняга гвалту ГА «Радзіслава», адзначыла, што ў напрамку супрацьдзеяння хатняму гвалту трэба рухацца маленькімі, але ўпэўненымі крокамі.

Таццяна Караткевіч, лідарка ГА «Гавары праўду», выказалася, што трэба больш распавядаць людзям пра альтэрнатыўныя метады выхавання дзяцей: «Калі не пляскач, то што?». Яна прапанавала паспрабаваць арганізаваць публічныя парламенцкія слуханні з анлайн-трансляцыяй для ўсіх жадаючых. Такія слуханні ў Беларусі былі — няшмат, але былі. Караткевіч адзначыла, што пры гэтым можна праводзіць грамадскія слуханні з прэзентацыяй канцэпцыі, рабіць націск на рэгіёны.

Аналітык Вадзім Мажэйка падкрэсліў, што праблема, у тым ліку распрацоўкі канцэпцыі, хаваецца непасрэдна ў пытаннях камунікацыі. Трэба падыходзіць больш прафесійна, напрыклад, прыцягваць піяр-агентаў і спецыялістаў па камунікацыі. Гэта адзначыла і сама Ірына Альхоўка. Яна сказала, што насамрэч не хапае патэнцыялу прафесіянальных юрыстаў, псіхолагаў. Мажэйка таксама заўважыў, што вялікую ўвагу трэба надаць навучанню супрацоўнікаў міліцыі і органаў, якія будуць адказныя за выкананне гэтага закона.

Дырэктарка цэнтра па прасоўванні правоў жанчын «Яе правы» Аляксандра Дзікан адзначыла, што трэба любымі шляхамі паказваць уладзе, што ў Беларусі ёсць група, якая лічыць важным прыняцце закона аб хатнім гвалце: «Трэба публічна супрацьстаяць ідэалогіі, што біць — можна і трэба».

«Яе правы» рыхтуе адпаведную петыцыю, якую хутка запусцяць. Прысутныя ўжо ўчора былі гатовыя падпісацца пад ёй. Была абмеркавана ідэя арганізацыі легальнага маршу, то бок непасрэднае публічнае выказванне сваёй пазіцыі.

На сустрэчы прысутнічалі і тыя, хто лічыў, што прыняцце спецыялізаванага закона не вырашыць існуючыя ў грамадстве праблемы. На іх думку, яго прыняцце адначасна не зменіць «традыцыйныя сямейныя каштоўнасці» і не абароніць ад гвалту. Напрыклад, актывіст анархісцкага руху Вячаслаў Касінераў адзначыў, што перш за ўсё трэба працаваць на прадухіленне хатняга гвалту, а не разбірацца ўжо з яго наступствамі, і выказаў ідэю курсаў па самаабароне. «Трэба не перакладаць адказнасць на МУС, а самім браць адказнасць за працу з агрэсарам», — адзначыў актывіст.

Гэта далёка не ўсе прапановы, якія былі агучаныя на сустрэчы — іх дзясяткі. Усе вельмі важныя, бо наперш накіраваныя на працу з грамадскай думкай. Насамрэч, у беларускай грамадскасці ёсць усе шанцы такімі маленькімі крокамі прыйсці да стварэння спрыяльнага прававога поля па супрацьдзеянні хатняму гвалту, якое рэальна будзе працаваць.

**20.09.93, 21:10**

*Ён толькі адчыніў брамку, калі побач раптам з'явіўся чалавек: нібыта вырас з-пад зямлі. У выцягнутай руцэ незнаёмца быў пісталет з глушыльнікам.*

*— Мы ж цябе папярэджвалі, — ціха сказаў чалавек у цёмнай вопратцы і націснуў на курок.*

*Гаспадар дома ўскрыкнуў ад болю і схапіўся за грудзі. З-пад яговых пальцаў палілася чырвоная кроў. Ён закаціў вочы і цяжка паваліўся на зямлю.*

*Кілер знік, быццам яго і не было. Паранены ўсё ж устаў і, захлёбваючыся крывёю, дайшоў да ганку. Жонка, убачыўшы мужа ў крыві, кінулася да тэлефона. Апошняе, што ён чуў, — яе істэрычны крык: званіла па хуткую дапамогу. Шыкоўны гадзіннік на руцэ забітага паказваў 21:10. Гэта было 20 верасня 1993 года.*


Public domain

# Куля для «чырвонага памешчыка»

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Яго называлі «чырвоным памешчыкам», і ён вельмі любіў уладу. Быў перакананы, што эканоміку Беларусі трэба арыентаваць на Расію, а ўсе апазіцыйныя партыі і недзяржаўныя СМІ трымаць цвёрдай рукой. Яго забойства Лукашэнка назваў сведчаннем таго, што ў краіну прыйшла мафія. Гэта злачынствы і цяпер усё яшчэ не раскрытае.**





## Ecce homo

Толькі праз два дні сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што быў забіты дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання, старшыня выканкама Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў Дзмітрый Канстанцінавіч Арцыменя. І пакуль праваахоўнікі і эксперты варажылі (хто і навошта?), нябожчык Арцыменя стаў вядомы на ўсю краіну.

Дзмітрый Канстанцінавіч належаў да тых, хто зрабіў сябе сам. Нарадзіўся 28 верасня 1932 года ў вёсцы Стайкі Баранавіцкага раёна і ў пятнаццаць гадоў пайшоў працаваць фармоўшчыкам Баранавіцкага рамонтна-механічнага завода. Далей — Пінскі гідраметыяраўцыйны тэхнікум і Дзятлаўскае раённае ўпраўленне сельскай гаспадаркі і нарыхтовак. Пасля службы ва Узброеных Сілах СССР (1953–1955) Арцыменя канчаткова асеў на Гродзеншчыне: працаваў старшым меліяратарам Зэльвенскага райвыканкама.

Аднак у 1957 годзе зрабіў стаўку на ідэалогію: узначаліў зэльвенскіх камсамольцаў, а праз некалькі гадоў — выканкам Свіслацкага райкама КПБ. З 1967 па 1976 гады Арцыменя працаваў першым сакратаром Астравецкага райкама Кампартыі. Потым — намеснікам старшыні выканкама Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў. 1983 — зорны год Арцымені. Нарэшце ён стаў гаспадаром Гродзеншчыны.

## Народны абраннік

Што яшчэ сапраўды падабалася Арцыменю, дык гэта дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце Беларусі. Дзмітрый Канстанцінавіч працаваў народным абраннікам у Вярхоўным Савеце БССР 8, 10 і 11 скліканняў. З выбарамі сур'ёзных праблем не было, таму што грамадзяне заўсёды галасавалі за непарушны блок камуністаў і беспартыйных. Вось і на апошніх выбарах у Вярхоўны Савет БССР 11-га склікання зімой 1985 года Арцыменя па Міхалішаўскай выбарчай акрузе №408 атрымаў 10445 галасоў, г.зн. 100%.

Аднак праз пяць гадоў сітуацыя змянілася. За дэпутацкі мандат трэба было пазмагацца. Арцыменя вылучаўся па Астравецкай выбарчай акрузе №264. Акрамя Арцымені былі яшчэ тры кандыдаты: абодва — з Гродзеншчыны і вядомы навукоўца, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржпрэміі БССР, загадчык аддзела Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР Адам Мальдзіс.

Усе пытанні па выбарах узялі на сябе даверaныя асобы Дзмітрыя Арцымені. Яны раз'язджалі па населеных пунктах, калгасах і саўгасах, распавядалі пра жыццёвы і працоўны шлях гродзенскага губернатара, распісвалі яго як працавітага і дзелавога кіраўніка, які з разуменнем ставіцца да патрэбаў выбаршчыкаў. Людзі Арцымені ў асноўным казыралі тым фактам, што Гродзенская вобласць па вырабе сельскагаспадарчай прадукцыі знаходзіцца не толькі на перадавых пазіцыях у рэспубліцы і ў СССР у цэлым, але і на другім месцы ў Еўропе пасля Галандыі.

4 сакавіка 1990 года Дзмітрый Арцыменя быў абраны народным дэпутатам. Па афіцыйных звестках, ён набраў 10 667 галасоў выбаршчыкаў (у галасаванні ўзялі ўдзел 20 218 чалавек). Ягоны асноўны супернік, намеснік старшыні выканкама Астравецкага раённага Савета народных дэпутатаў Расціслаў Герт атрымаў 6 047 галасоў. Герт зрабіў спробу аспрэчыць вынікі выбараў (маўляў, у дзень галасавання за Арцыменю праводзілася незаконная агітацыя), але беспаспяхова.

Адам Мальдзіс, які фактычна агучыў перадвыбарчую праграму БНФ, атрымаў найменшую колькасць галасоў.

У Вярхоўным Савеце 12 склікання Арцыменя належаў да тых сілаў, якія неўзабаве сталі называць кансерватыўнай парламенцкай большасцю. Яна была прадстаўлена высокапастаўленымі дзяржаўнымі і савецкімі работнікамі, кіраўнікамі аблсаветаў і старшынямі калгасаў і саўгасаў. Адпаведнай была і ідэалогія такой большасці: мінімум унутраных рэформаў і актыўная арыентацыя на Расію.

Вось што, напрыклад, казаў Дзмітрый Арцыменя на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 30 чэрвеня 1993 года: «Нам надо экономику ориентировать на Россию, чтобы мы могли иметь эквивалентный обмен товаров на сырье, так как наши товары неконкурентоспособные». У адказ лідар парламенцкай апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк заўважыў, што якраз патрэбныя рэформы, а не танная сыравіна.

Арцыменя быў цвёрда ўпэўнены, усе апазіцыйныя рухі, партыі, а таксама недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі трэба трымаць цвёрдай рукой. Калі 20 кастрычніка 1992 года парламенцкая апазіцыя БНФ вынесла на абмеркаванне праект пастановы аб дэманапалізацыі друку (Савету Міністраў, напрыклад, забаранялася выступаць у якасці заснавальніка выданняў і інш.), Арцыменя рашуча выступіў супраць.

Патлумачыць сітуацыю Арцыменю паспрабаваў дэпутат, старшыня часовай камісіі Вярхоўнага Савета па прывілеях, аглядальнік «Народнай газеты» Іван Герасюк. Герасюк даказваў Арцыменю, што кожны мае права выказваць свой пункт погляду. А калі ўлада зменіцца, працягваў Герасюк, ці маецца гарантыя, што Арцыменя знойдзе трыбуну, каб выказаць свой погляд. Аднак «чырвоны памешчык» быў непахісны, ён абвінавачціў апазіцыю ў тым, што яна не прадставіла праект пастановы для экспертызы ў пастаянныя камісіі.

Акрамя таго, па словах Арцымені, праект пастановы не быў разгледжаны Кансультатыўным Саветам (уяўляў з сябе фармаванне, у якое ўваходзілі ўсе дэпутаты, што працавалі ў парламенце на пастаяннай аснове; галоўная задача Кансультатыўнага Савета заключалася ў тым, каб абавязкова даваць заключэнні па законапраектах, якія прапаноўваліся пастаяннымі камісіямі; і хаця гэтыя заключэнні мелі для Вярхоўнага Савета рэкамендацыйны характар, было зразумела, што Кансультацыйны Савет выконвае ролю своеасаблівага «фільтра» законапраектаў, непрыемных для парламенцкай большасці; спецыяльнае палажэнне аб Кансультатыўным Савеце было зацверджана Прэзідыумам Вярхоўнага Савета 23 верасня 1992 года. — Аўт.).

Праект пастановы, канешне, не быў прыняты. Супраць выступілі, напрыклад, кіраўнік праўрадавай дэпутацкай групы «Беларусь» Генадзь Данілаў і народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка.

Калі парламенцкая большасць вырашыла скінуць старшыню Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, Дзмітрый Арцыменя быў у авангардзе падзей. 30 чэрвеня 1993 года на пасяджэнні парламенцкай сесіі Арцыменя рэзка раскрытыкаваў Шушкевіча за тое, што старшыня быццам бы дзэвальваваў працу Вярхоўнага Савета, а сам асабіста страціў сувязь з мясцовымі органамі ўлады. Аднак вядома, што гэтая спроба не ўдалася. У выніку

падзеяў 30 чэрвеня — 1 ліпеня 1993 года Станіслаў Шушкевіч атрымаў 166 галасоў недаверу, аднак захаваў пасаду.

З'яўляючыся кіраўніком адной з развітых абласцей краіны, Арцыменя, безумоўна, меў павагу сярод наменклатуры, уплыў на самога Вячаслава Кебіча. Сярод спецыялістаў і экспертаў найноўшай гісторыі Беларусі існуе т. зв. «тэорыя змовы»: нібыта большасць дэпутатаў жадала бачыць на чале парламента менавіта Арцыменю (па словах Аляксандра Фядуты, дэпутаты называлі Арцыменю не іначай, як «бацька»), а не Станіслава Шушкевіча. І на сённяшні дзень вельмі папулярнай з'яўляецца легенда (пры адсутнасці крыніцаў), згодна з якой Арцыменя незадоўга да сваёй трагічнай гібелі быў прызначаны на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета на таемным сходзе большасці народных дэпутатаў пры ўдзеле Кебіча ў Заслаўі.

Сам Арцыменя, безумоўна, любіў уладу. А калі прысутнічаў на пасяджэннях Канстытуцыйнай камісіі, заўсёды выказваўся на карысць амерыканскай мадэлі кіравання.

## Справы мясцовыя

Гродна і вобласць Арцыменя лічыў сваёй асабістай вотчынай. І крый Божа, калі хто-небудзь на гэтую вотчыну спакушаўся. Пасля пераможных выбараў 1990 года Арцыменя пазбавіўся былых супернікаў: Расціслаў Герт і старшы інспектар аддзела УС Астравецкага райвыканкама Сяргей Маўрын сышлі са сваіх пасадаў.

У кароткі тэрмін на ключавыя пасады Арцыменя паставіў сваіх людзей. Так, яго непасрэдных намеснікаў стаў адзін са старшыняў мясцовага калгаса Мечыслаў Гіруць. У крэсла мэра Гродна Арцыменя пасадзіў маладога і амбіцыйнага Сямёна Домаша. Арцыменя цалкам кантраляваў мясцовае выданне «Гродзенская праўда».

Аднак ціха жыць і рабіць свае справы не ўдавалася. Сапраўдным галаўным болем для Арцымені сталі дэпутаты ад апазіцыі БНФ, абраныя на Гродзеншчыне. Дзейнасць Арцымені і ягонага бліжэйшага атачэння крытыкавалі Галіна Сямдзянава, Мікалай Маркевіч і інш. На мясцовым узроўні шмат праблемаў Арцыменю даставіў дэпутат Гродзенскага гарадскога Савета Аляксандр Горкаў.

Вялікай непрыемнасцю для Арцымені стала з'яўленне ў Гродна ажно трох незалежных выданняў, заснаваных мясцовымі прадпрымальнікамі і кааператыўшчыкамі. Штодзённыя «Гродненские новости», штотыднёвыя «Перспектива» і «Гродненская неделя» даводзілі жыхарам абласнога цэнтра і рэгіёнаў інфармацыю пра палітыку і дзейнасць аблсавета, крытыкавалі самыя буйныя і дробныя памылкі губернатара.

Так, ужо літаральна з першых нумароў «Гродненские новости» пачалі раскручваць сітуацыю з продажам чатырох гаражоў па вуліцы Карла Маркса (пастанова Ленінскага раёна Гродна ад 17 кастрычніка 1989 года №615). Гаражы былі прададзеныя, як высветліла пракуратура, з парушэннем заканадаўства і зарэгістраваныя на падстаўных асобаў.

Неўзабаве дабраліся і да самога Арцымені. З канца 1991 года «Гродненские новости» і «Перспектива» пачалі серыю публікацый пра шыкоўны дом Арцымені і апартаменты ягонага намесніка Мечыслава Гіруця. Матэрыял перадрукавала сталічная апазіцыйная газета «Свабода», што моцна псавала імідж Арцымені. Раз'юшаны гродзенскі губернатар пагражаў іскамі і судамі, а падчас прыватных сустрэч з галоўнымі рэдактарамі недзяржаўных газетаў адкрыта казаў аб магчымасці іх закрыцця.

Аднак журналісты не здаваліся. Менавіта дзякуючы іх высілкам сесія абласнога Савета ў студзені 1992 года паставіла пытанне аб недаверы намесніку Арцымені Мечыславу Гіруцю. А ў жніўні таго ж года Гіруць вымушаны быў пакінуць сваю пасаду, што стала моцным ударам па Арцыменю.

Не менш моцным ударам было стварэнне часовай камісіі Вярхоўнага Савета па пытанні захавання маёмасці каманднага пункта (каля Ваўкавыска) былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскай дамовы. Камісія была ўтворана большасцю галасоў парламентарыяў, у склад яе ўвайшлі і прадстаўнікі парламенцкай апазіцыі БНФ — Мікалай Аксаміт і Юрый Беленькі.

Будаўніцтва каманднага пункта штаба Узброеных Сіл Арганізацыі Варшаўскай дамовы пачалося ў 1983 годзе ў абстаноўцы строгай сакрэтнасці. Кошт аб'екта да 1 студзеня 1992 года дасягнуў 6 мільярдаў рублёў.


ВЫБАРЫ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

„4" сакавіка 1990 г.
(дата выбараў)

УЧОТНАЯ КАРТКА

кандыдата ў народныя дэпутаты Беларускай ССР,
які зарэгістраван па Астравецкай
выбарчай акрузе № 264

...ўшча, імя, імя па бацьку кандыдата Арцыменя Дзмітрый Канстанцінавіч
..., месяц і число нараджэння 1932 г. н., верасень, 28
...янальнасць беларус
...тыйнасць член КПСС
З'яўляецца членам ВЛКСМ
...кацыя Ленінградскі сельскагаспадарчы інстытут, эканаміст-арганізатар
(якую навучальную ўстанову закончыў, спецыяльнасць па адукацыі)
...ная ступень, званне не мае
...мае званне Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы не мае
...мае званне лаўрэата Ленінскай, Дзяржаўнай прэмій СССР і Дзяржаўнай прэміі БССР не мае
Узнагароджан ордэнамі, медалямі СССР так
(так, не)
З'яўляецца народным дэпутатам СССР не з'яўляецца
Выбіраўся раней дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 12, 19, 20 скліканняў
(якіх скліканняў)
...так і месца работы старшыня выканкома Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў
...шні адрас г. Гродна, вуліца Астроўскага, д. 12
...бовы 44-20-29
...шні 33-01-68

Старшыня акруговай выбарчай камісіі Дашкевіч
... лютага 1990 г.
(дата складання карткі)

...тавіцца адначасова з пратаколам акруговай выбарчай камісіі аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты.

**Уліковая картка Арцымені — кандыдата ў народныя дэпутаты БССР.**
Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

На пачатку 1993 года часовая камісія зрабіла адпаведны даклад на закрытым пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета. І хаця справа не мела вялікага рэзанансу, тым не менш, «чырванець» павінен быў Арцыменя.

Цікавыя факты з гэтай справы апублікавала на сваіх старонках газета «Свабода», рэдакцыя якой сцвярджала, што неафіцыйным чынам атрымала копію даклада. Напрыклад, высветлілася, што ў сакавіку 1992 года Міністэрства абароны Беларусі вырашыла прадаць маёмасць і памяшканні пункта навукова-вытворчаму аб'яднанню «Воспак» за 18 мільёнаў рублёў.

У красавіку 1992 года Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт абвясціў каманднны пункт камунальнай уласнасцю, у выніку чаго ўзнікла судовая цяжба. Усё ж 27 жніўня 1992 года Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь прызнаў продаж законным.

Аднак Кебіч падтрымаў Арцыменю: 11 снежня 1992 года рашэннем Савета Міністраў Беларусі пазначаны аб'ект быў пераведзены ў рэспубліканскую ўласнасць, а Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт абавязалі выдаць пакупніку грашовую кампенсацыю.

Дзмітрый Арцыменя быў рызыкоўным чалавекам. З другой паловы 1993 года па краіне папаўзлі чуткі аб буйных камерцыйных акцыях з удзелам Дзмітрыя Арцымені, яго сувязях ледзь не з крымінальным светам. Пры гэтым Арцыменя слыў чалавекам, на якога цяжка было аказаць ціск.

Пасля забойства Арцымені незалежныя журналісты і эксперты выказалі думку, што апошняй кропкай партнёраў нябожчыка стала затрыманне на мяжы цягніка з далёкага Шымкента (да 8 верасня 1992 года Чымкент, горад на поўдні Казахстана) з дваццацю цыстэрнамі жоўтага фосфару

**Арцыменя быў рызыкоўным чалавекам. З другой паловы 1993 года па краіне папаўзлі чуткі аб буйных камерцыйных акцыях з яго ўдзелам, яго сувязях ледзь не з крымінальным светам**



**Дом на вуліцы Астроўскага ў Гродне, на ганку якога 20 верасня 1993 года ў 21 гадзіну 10 хвілін быў забіты старшыня Гродзенскага аблвыканкама Дзмітрый Канстанцінавіч Арцыменя.**
Фота: linija-curzona

агульным коштам 1 мільён долараў. Па афіцыйнай версіі следства, фосфар ад імя гродзенскага вытворчага аб'яднання «Азот» быў закуплены фірмай-пасрэднікам «Белвнешпромсервис», аднак фосфар прызначаўся не для «Азоту», а для адной швейцарскай фірмы, таму Кастрычніцкі суд Гродна арыштаваў увесь састаў.

## Што пасля забойства?

Вельмі ўдалы крок зрабіў Станіслаў Шушкевіч. Старшыня адчуваў хісткасць свайго становішча ў Вярхоўным Савеце, таму меў патрэбу ў рэгіянальнай падтрымцы. Калі ў сярэдзіне кастрычніка 1993 года ў Гродна сабралася абласная сесія, каб выбраць новага кіраўніка, туды экстрана і нечакана для ўсіх накіраваўся Станіслаў Шушкевіч у суправаджэнні аўтаматчыкаў. Мэта Шушкевіча палягала ў тым, каб падтрымаць кандыдатуру Сямёна Домаша. Мэта была дасягнутая: Домаш стаў новым гродзенскім губернатарам, а ў снежні 1993 года — народным дэпутатам.

Забойства Арцымені мела вялікі рэзананс (масла ў агонь падліло паведамленне пра тое, што ў сейфе нябожчыка знойдзена валюты на звыш 70 мільёнаў тагачасных беларускіх рублёў; Шушкевіч заявіў тады, што на гэтыя грошы ён мусіў бы працаваць 30 месяцаў). Таму на раскрыццё злачынства былі кінуты лепшыя сілы. Не абыходзілася і без канфузаў. Так, мясцовыя чэкісты ўзялі ў распрацоўку актывістаў — выкладчыка дзяржуніверсітэта (сацыял-дэмакрат) і інжынера «Гродназнерга» (сябар партыі БНФ).

Забойства Арцымені імкнуўся выкарыстаць на ўсю катушку народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка. У сваім дакладзе 14 снежня 1993 года Лукашэнка заявіў, што забойства Арцымені — сведчанне таго, што ў краіну прыйшла мафія. Дэпутат настолькі востра прайшоўся па Арцыменю, што свой пратэст выказалі міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў і шэф КДБ Эдуард Шыркоўскі.

Аднак падчас першай прэзідэнцкай кампаніі Лукашэнка ўсяляк крытыкаваў Арцыменю, казаў, што Гродзеншчына — беларуская «Коза Ностра». Нервы не вытрымалі нават у Кебіча. 5 чэрвеня 1994 года на пасяджэнні Полацкага гарвыканкама прэм'ер-міністр наступным чынам ахарактарызаваў кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнку: ***«Этот человек на последнем сдвиге. Он в глаза человеку посмотрит и делает вывод, что человек вор. В этом человеке нет ничего конструктивного, у него все разрушительное. У него Козловский (міністр абароны) — вор, Данько (міністр унутраных спраў) — вор, Арцименя — вор, бывший, покойный. Ну, хотя бы его бы не трогал, ну, честное слово, не по-христиански. Ну нельзя же трогать человека, который погиб все же. Ты меня извини, ты же идешь к власти, как же ты будешь работать?!»***

Забойства Дзмітрыя Арцымені не раскрытае і сёння.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Распусцяць «Адзіную Расію»?

Такога меркавання прытрымліваецца ўсё больш расійскіх экспертаў. На іх думку, падзенне рэйтынгу кіруючай у Расіі партыі з-за пенсійнай рэформы і іншых негатыўных фактараў ужо не спыніць. Нагадаем, што цяпер папулярнасць «Адзінай Расіі» б'е ўсе антырэкорды. На сёння яе падтрымлівае толькі 30 працэнтаў электарату. Выхад для ўлады бачыцца ў тым, каб пастулова спісаць «мядзведзяў» ва ўтыль і заняцца стварэннем новай «партыі ўлады». Новая апора кіруючай эліты, як лічыць экспертная супольнасць, будзе фармавацца на базе руху «Грамадскі народны фронт» і «сацыяльных ліфтаў» Адміністрацыі прэзідэнта. Пры гэтым, паводле тых самых чутак, да прэм'ера Дзмітрыя Мядзведзева дадзены блок не будзе мець наўпростаўвых адносінаў. Як вынік, уплыў і апаратная вага Мядзведзева будуць планава зніжацца, што ставіць крыж на яго шанцах стаць пераемнікам Пуціна. Хутчэй за ўсё, неўзабаве Мядзведзева чакае прызначэнне на ганаровую кіруючую пасаду ў адну з дзяржкарпарацый, а ў Крамлі пачнецца новая серыя вайны за ўладу.

**Паводле расійскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. Коміксы ідуць ва ўладу



Прэзідэнцкія і парламенцкія выбары ў Бразіліі, што прайшлі 7 кастрычніка, запомніліся не толькі поспехам правага папуліста Жаіра Балсанару, які атрымаў каля 45 працэнтаў галасоў. Выбары таксама ўвойдуць у гісторыю дзякуючы беспрэцэдэнтнай колькасці кандыдатаў, якія выступалі пад імёнамі персанажаў коміксаў. Сярод кандыдатаў парламента прысутнічалі аж два Бэтмэны, Супермэн, Жалезны чалавек, Капітан Амерыка, Чалавек-Павук і гэтак далей. Такі феерверк выкліканы асаблівасцям мясцовага заканадаўства: Вярхоўны выбарчы суд дазволіў кандыдатам рэгістравацца пад любымі псеўданімамі пры ўмове, што яны не з'яўляюцца абразлівымі. Сваё сапраўднае імя абавязаны выкарыстоўваць толькі кандыдат у прэзідэнты краіны. Дарэчы, імідж героя комікса сапраўды можа гарантаваць мандат, паколькі многія бразільцы расчараваныя ў старых палітыках. І прыкладаў хапае. Самы вядомы выпадак быў у 2010 годзе, калі за нейкага клоуна прагаласавалі 1,3 мільёна бразільцаў. Яшчэ больш шакавальны выпадак быў зарэгістраваны ў 1959 годзе, калі 100 тысяч жыхароў Сан-Паўлу прагаласавалі на выбарах мэра за насарога з мясцовага заапарка.

**Паводле іспанскай і расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Моўныя жарсці

Вярхоўнай Радай Украіны ў першым чытанні прыняты законапраект пра дзяржаўную мову. Хоць ён вельмі жорсткі, многія ўспрынялі дакумент хутчэй з палёгкай. Напярэдадні некаторыя палохаліся замацавання ў законе інстытута моўных інспектараў і асаблівага дэпартамента, які меў бы манапольнае права выдаваць сертыфікаты, якія пацвярджаюць веданне роднай мовы. Відавочна, такі сцэнар адкрывае нябачаныя гарызонты для карупцыі. Чыноўнікі, напрыклад, маглі «кашмарыць» любую юрыдычную асобу за няведанне яе персаналам мовы і патрабаваць хабары за сертыфікаты. Аднак ініцыятары, падаецца, вырашылі кампенсаваць хібы новымі трактоўкамі. У прыватнасці, адзін з аўтараў дакумента, старшыня камітэту па культуры і духоўнасці Мікола Княжыцкі звярнуў увагу, што ў законе прадугледжана адказнасць за прыніжэнне дзяржаўнай мовы. Пад гэтым, паводле яго слоў, трэба разумець і выкарыстанне дэпутатамі замежнай мовы. Такое «злачынства», як лічыць Княжыцкі, павінна карацца штрафам. Ідэю падтрымалі нацыяналісты. Больш за тое, яны лічаць, што дэпутаты, якія нягледзячы на штрафы працягваюць ігнараваць мову, павінны быць пазбаўленыя мандату.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Дзень нямецкай разнастайнасці

Шэраг грамадскіх арганізацый Германіі, якія абараняюць правы нацыянальных меншасцяў, прапанавалі падкарэктаваць канцэпцыю свята «Дзень нямецкага адзінства». Гэты дзень святкуецца 3 кастрычніка і звязаны з падзеямі восені 1989-га, калі ўсходнімі немцамі была разбурана Берлінская сцяна і фактычна пачаўся працэс уз'яднання Германіі. Між тым, актывісты лічаць, што канцэпцыя свята састарэла. Адзінства Германіі ў сучасным прачытанні — гэта не рэінтэграцыя Захаду і Усходу, а, хутчэй, адзінства немцаў з імігрантамі. Адпаведна, інакш павінен выглядаць і канцэпт свята 3 кастрычніка. Зрэшты, актывісты згодныя пакінуць «Дзень нямецкага адзінства» ў спакоі. Але толькі пры адной умове: калі ў календары чырвоных дат Германіі з'явіцца новае афіцыйнае свята — Дзень нямецкай разнастайнасці, у межах якога мігранты і немцы будуць дэманстраваць узаемныя сяброўскія пачуцці.

**Паводле нямецкай прэсы**


DE GAULLE INVESTI
à l'Assemblée par 329 voix contre 224
lui demande ce matin
PLEINS POUVOIRS PENDANT SIX MOIS
pour agir rapidement
dans la métropole et en Algérie
SANS DÉLAI S'OUVRIRA UNE PROCÉDURE EXPÉDITIVE DE RÉFORME CONSTITUTIONNELLE PAR RÉFÉRENDUM :
• Suffrage universel, source de tout pouvoir
• Séparation de l'Exécutif et du Législatif
LE MINISTÈRE
Ministres d'État :
Ministres :
Ministres ou secrétaires d'État :

Фота www.economiepolitique.org

# Адкуль пайшла вертыкаль

Алег НОВІКАЎ

**Пятай канстытуцыі Францыі — бабулі ўсіх канстытуцый так званых «моцных прэзідэнцкіх рэспублік», у тым ліку Беларусі, — 4 кастрычніка споўнілася 60 гадоў.**

У параўнанні з 50-й гадавінай публікацый на гэтую тэму ў французскай прэсе сёння нашмат больш, чым было дзесяць гадоў таму. Растлумачыць гэта можна актуальнасцю. Імкліва губляе давер Эмануэль Макрон, які прыйшоў ва ўладу ў статусе амаль месіі, здольнага вывесці краіну з доўгага крызісу. Тыя ж ілюзіі мелі калісьці французы на адрас Сарказі. Як бачым, асабістыя якасці палітыкаў не вельмі дапамагаюць. Таму цяпер стала папулярна шукаць прычыны ў хібах усёй французскай сістэмы, пастулаты якой прапісаныя ў Канстытуцыі 1958 года.

Да канстытуцыйнай рэформы 1958-га Францыя была парламенцкай рэспублікай, дзе асноўная роля прэзідэнта палягала ў тым, каб не дапусціць парушэння асноў канстытуцыі з боку старшыні ўраду. Той, у сваю чаргу, залежаў ад складанай канфігурацыі палітсілаў у парламенце. Каб сфармаваць кабінет, даводзілася ствараць шырокія і нестабільныя кааліцыі. Міністэрскія крызісы пры Чацвёртай рэспубліцы сталі нормай. За 12 гадоў існавання Чацвёртай рэспублікі змянілася 12 прэм'ер-міністраў і 22 склады ўраду, якія знаходзіліся ва ўладзе ў сярэднім 6 месяцаў.

Аднак галоўным каталізатарам зменаў стала вайна ў Алжыры і спроба вайсковага перавароту ўвесну 1958-га. Каб супакоіць грамадства, давялося выклікаць з пенсіі Шарля дэ Голя, які меў абсалютны аўтарытэт. Аднак генерал пагадзіўся ўзначаліць адміністрацыю выключна на ўмовах «мадыфікацыі Канстытуцыі». Да заканчэння «мадыфікацыі» ён жадаў кіраваць кранай наўпроставымі пастановамі. У палітычна таксічнай атмасферы парламент пагадзіўся на ўсе капрызы генерала, хаця гэта і супярэчыла існуючым законам.

Нельга не здзіўляцца рашучасці і аператыўнасці дэ Голя, які з групай экспертаў усяго за чатыры месяцы здолеў стварыць новую рэдакцыю асноўнага закона, правесці яго на рэферэндуме 28 верасня, каб, адпаведна, увесці ў сілу ўжо 4 кастрычніка. Прыроду новай канстытуцыі сфармуляваў адзін з французскіх прэм'ераў: «Кіраўнік ураду — памочнік, а прэзідэнт — патрон».

У новага праекта яшчэ на момант прыняцця з'явілася шмат крытыкаў. Найбольш агрэсіўна ставіліся да перадзелу ўлады на карысць прэзідэнта камуністы, якія мелі тады адносную большасць у парламенце. Яны лічылі, што Францыя з новай Канстытуцыяй фактычна вяртаецца ў часы банапартызму. На думку апанентаў галістаў, новы закон быў напісаны пад ціскам палітычнай кан'юнктуры, і ў дадатак пад канкрэтную асобу.

У чымсьці крытыкі мелі рацыю. Пасля палітычнай стабілізацыі і сыходу дэ Голя з Елісейскага палацу грамадскасць пачала больш асцярожна ставіцца да інстытуту прэзідэнта-патрона. У выніку прыкладна з 1980-х гадоў замацавалася практыка, калі на парламенцкіх выбарах французы галасавалі супраць прэзідэнцкай партыі. У выніку паўставаў феномен «cohabitation» — суіснаванне прэзідэнта і Кабміну, якія належалі да розных партый. Баланс улады фактычна блакаваў спробы рэформаў.

З улікам трэндаў у соцыуме канстытуцыю 1958 года пару разоў карэктавалі. Пры Шыраку прэзідэнта вырашылі абіраць на пяць, а не на сем гадоў. У часы Сарказі ў тэкст французскай канстытуцыі былі ўнесеныя важныя папраўкі ў накірунку пашырэння аўтаноміі парламента. Аднак, гледзячы па цяперашніх дэбатах, грамадства касметычны рамонт ужо не задавальняе. У асноўным французы выступаюць за пашырэнне дэмакратыі за кошт паўнамоцтваў прэзідэнта, якому прапануюць задаволіцца сектарамі бяспекі і замежнай палітыкі.

Пакуль на радзіме Пятай рэспублікі выступаюць за рэвізію яе догмаў, за мяжой сітуацыя трошкі іншая. Як вядома, у свой час асноўныя прынцыпы канстытуцыі Пятай рэспублікі з рознымі лакальнымі варыяцыямі імпартавалі ў сваё дзяржаўнае заканадаўства амаль усе былыя французскія калоніі. А ў 1990-я гады чарга дайшла да постсавецкай прасторы.

Піянерам тут выступіў Барыс Ельцын у 1993 годзе. Увогуле, сам антураж прыняцця расійскай канстытуцыі выклікае дэжа-вю. Як і ў Францыі, да прыняцця канстытуцыі фактычна быў канстытуцыйны пераварот. Калі Шарль дэ Голь шантажаваў парламент, патрабуючы абсалютнай улады, то Ельцын ліквідаваў заканадаўчы орган падчас кастрычніцкіх падзей 1993-га. І там, і там меў месца вайсковы фактар. Істотную ролю адыгралі асобы і ўласцівыя ім асабістыя забабоны. Праўда, Барыс Мікалаевіч пайшоў далей за генерала. У расійскай версіі прэзідэнцкай рэспублікі парламент — увогуле дэкарацыя.

Пасля Ельцына мадэль моцнага прэзідэнта стала найбольш папулярнай сярод краін экс-СССР. Напоўніцу з такой з'явай не сутыкаліся хіба што Малдова і Украіна. Згаданыя краіны плюс Арменія і Грузія сёння з'яўляюцца парламенцкімі або парламенцка-прэзідэнцкімі рэспублікамі. Аднак іх прававу мутацыю выключаць нельга. Прынамсі, ва Украіне выхадам з цяперашняга крызісу шмат хто лічыць аўтарытарны шлях. Напрыклад, адзін з фаварытаў прэзідэнцкіх выбараў Анатоль Грыцэнка абяцае ў выпадку перамогі стаць украінскім Піначчэтам. Іншы папулярны палітык, Алег Ляшко, увогуле за пераход на амерыканскую мадэль, паводле якой прэзідэнт адначасова выконвае функцыі прэм'ера.

Так што справа Шарля дэ Голя жыве і перамагае.

# Людзі на дрэвах

Алег НОВІКАЎ

**У Германіі адбываецца нечаканы рэнесанс радыкальнага экалагічнага руху. Усё праз канфлікт паміж уладамі і групай актывістаў, якія ў прамым сэнсе слова жывуць на дрэвах. Падрабязнасці «Новаму Часу» распавядае берлінскі эколаг Ральф Дзюкер.**



Фота www.wp.de



Фота www.goettinger-tageblatt.de

***— Сёння шмат дзе ў Берліне на мурах можна пабачыць графіці «Hambi lebt!». Маецца на ўвазе Hambacher Wald, або Hambacher Forest — лясны масіў у зямлі Ніжні Рэйн-Вестфалія, які стаў арэнай адкрытага супрацьстаяння эколагаў і сілавікоў. Што не падзялілі бакі канфлікту?***

— Прыкладна 5–6 гадоў таму ўрад зямлі Ніжні Рэйн-Вестфалія пагадзіўся на здабычу вугалю ў раёне, дзе знаходзіцца той самы лес. Паколькі гэты гатунак вугалю здабываецца адкрытым метадам, Hambacher Forest пагражала высечка. У адказ група эколагаў вырашыла абараніць прыродны аб'ект — пабудавала на дрэвах дамы і пачала стала там жыць. Стаўка рабілася на тое, што вугальная кампанія ўстрымаецца ад высечкі дрэваў, на якіх жывуць людзі. Аднак прыкладна ў пачатку восені, калі арэал здабычы вугалю наблізіўся да Hambacher Wald, паліцыя атакавала лагер на дрэвах.

***— Што ўяўляў сабой лагер перад пачаткам канфрантацыі?***

— За часы існавання лагер на дрэвах у Hambacher Wald ператвараўся ў сапраўдную з'яву. Лічыцца, што гэта самы вялікі гарадок на дрэвах — прынамсі, у Еўропе. На кронах дрэваў прыкладна на вышыні 7–8 метраў было пабудавана каля 50 дамоў, дзе перыядычна жылі каля ста чалавек. Дамы былі забяспечаныя святлом праз сваю сонечную электрастанцыю. На дрэвах нават умудрыліся пабудаваць біяпрыбіральні і цяпліцы. Паміж будынкамі былі працягнутыя масткі. Трапіць у лагер можна было толькі праз лесвіцы, якія пратэстоўцы прыбралі пасля з'яўлення паліцыі. Паліцыянтам заставалася толькі блакіраваць дамы і выжываць пратэстоўцаў за кошт пражэктараў і гукавых эфектаў. Праўда, частку будынкаў ім удалося захапіць і разбурыць.

***— Тым не менш, адзін чалавек у выніку паліцэйскай акцыі загінуў?***

— Так, здарылася трагедыя. Яе ахвярай стаў журналіст, які здымаў дакументальнае кіно і знаходзіўся ў той час на дрэве. Раптам на картцы яго камеры скончылася вольнае месца. Ён вырашыў перакачаць здымкі на кампутар, які знаходзіўся ў будынку на суседнім дрэве. Пры гэтым ён ігнараваў правілы бяспекі, якія патрабуюць перабірацца паміж дрэвамі выключна са страхоўкай. У выніку чалавек зваліўся і загінуў. На жаль, толькі пасля гэтага грамадскасць сапраўды звярнула ўвагу на падзеі ў Hambacher Wald. Туды накіравалася шмат эколагаў. Дэманстрацыя на мінулым тыдні сабрала каля 50 тысяч чалавек. Такой буйной акцыі эколагаў не было, напэўна, гадоў дзесяць.

***— Як адрэагавала ўлада на такі маштабны пратэст?***

— Тое, што адбываецца ў лесе, наўрад ці падабаецца як зямельным, так і федэральным уладам. Кампанія RWE, што здабывае вугаль, таксама часткова належыць дзяржаве. Між тым, высвятляецца, што дырэкцыя кампаніі мела нейкія нефармальныя сувязі з паліцыяй. Інакш бы паліцэйскія, не маючы на руках патрэбнага фармальнага загаду, не пачалі хапун. Акрамя таго, пратэст выставіў у нязручным святле кабінет Меркель, чальцы якога з аднаго боку робяць сабе палітычны капітал на тэме абароны клімату, і адначасова не супраць развіцця вугальных электрастанцый — крыніцы выкідаў і $CO_2$ у атмасферу.

***— Восень 2018-га запомнілася ў Германіі не толькі экалагічнымі пратэстамі, аднак і ростам правых настрояў. Правапапулісцкая партыя «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) на днях выйшла на другое месца ў партыйных рэйтынгах. Не выключаюць хуткі ўваход AfD у органы ўлады. Ці ёсць у «Альтэрнатывы для Германіі» нейкая экалагічная праграма?***

— Баюся, у «Альтэрнатывы для Германіі» няма канкрэтных прапаноў ні па адной праблеме. Гэта партыя, якая грае на стыхійнай незадаволенасці часткі грамадства. Як правіла, гэта людзі, якія супраць росту коштаў на бензін або адмовы ад традыцыйнай формулы спажывання. Таму «Альтэрнатыва для Германіі» — гэта ярка антыэкалагічная партыя.

***— У Германіі яшчэ не забыліся пра пачатак 1980-х гадоў, калі ледзь не ўся краіна ўзнялася супраць будаўніцтва атамных станцый. Менавіта на той хвалі паўстала партыя «Зялёных», якая здолела прарвацца ў палітычную эліту. Ці могуць пратэсты вакол лесу мець падобныя буйныя палітычныя наступствы?***

— Стоадсоткавы рымейк таго, што адбылося 30–40 гадоў таму, немагчымы, паколькі грамадства і камунікацыі моцна змяніліся. Раней, каб выказаць сваю пазіцыю, трэба было ўзняць адно месца і ісці на вуліцы. Сёння для гэтага дастаткова паставіць «дызлайк» у інтэрнэце. Пакуль пераводзіць пратэст у інтэрнэце на ўзровень сапраўднага дзеяння палітсілы не навучыліся. Пра гэта сведчыць нядаўні няўдалы вопыт Партыі піратаў, структура якой фармавалася праз сецiва. Часамі Партыя піратаў мела да 15 працэнтаў падтрымкі. Аднак у выніку пірацкі праект ляснуўся. Магчыма, нейкія бонусы з апошніх падзей атрымаюць «Зялёныя». Партыя шмат дапамагае эколагам, хаця менавіта ўрад з іх удзелам 6 гадоў таму даў згоду на здабычу вугалю ў Hambacher Wald.

Аднак усё роўна мабілізацыя мела сэнс. Эколагі давялі, што разам могуць спрацаваць вельмі эфектыўна. Высечка дрэваў нечакана аказалася спыненая, дзякуючы арганізацыі па абароне птушак, якая падключылася да кааліцыі пратэстоўцаў. Аказалася, што падобная арганізацыя па законе мае права патрабаваць спыніць высечку лесу. Каб аспрэчыць патрабаванне ахоўнікаў птушак у судах, спатрэбіцца пару гадоў. Гэта дазваляе казаць, што Hambacher Wald — як мінімум пакуль, — выратаваны.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Юлія Цімашэнка



Кіраўніца украінскай апазіцыйнай партыі «Батькивщина», лідарка прэзідэнцкай гонкі, магчыма, зрабіла фатальны крок.

«Лэдзі Ю», як яе называюць, прагаласавала за санкцыі супраць двух апазіцыйных каналаў — 112 і Newsone, якіх вінавацяць ледзь не ў працы на Крэмль. Аднак закрыць любое СМІ, паводле ўкраінскіх законаў, можна выключна праз суд. Не кажучы пра тое, што такі крок, як забарона каналаў, не меў прэцэдэнтаў за ўсю гісторыю незалежнасці. Нават Януковіч не дазваляў сабе такога. Нездарма АБСЕ ўжо ўзяла сітуацыю пад кантроль.

Ліквідацыя каналаў пагражае асабіста для Цімашэнка татальнай інфармацыйнай ізаляцыяй. Толькі 112, Newsone ды львоўскі канал ZIK сёння рызыкуюць запрашаць да сябе ў эфір апазіцыянераў. Праз адсутнасць на экране, Цімашэнка, як лічаць эксперты, дакладна губляе пяць працэнтаў папулярнасці.

Аднак больш за ўсё не зразумелы яе ўчынак праз прызму хуткіх выбараў. Паколькі асноўная аўдыторыя згаданых каналаў — Поўдзень і Усход, там адразу змянілі стаўленне да кандыдаткі. Усё гэта ў выніку грае выключна на руку Парашэнку, які, быццам, робіць стаўку на выхад у другі тур з кандыдатам ад экс-рэгіёнаў. Праўда, Цімашэнка як вопытны палітык ужо пачала рабіць нейкія крокі і кажа, што яе голас за санкцыі супраць каналаў не так зразумелі.

### Франсуа Лего



Гледзячы па ўсім, у асобе новага 61-гадовага прэм'ер-міністра канадскай франкамоўнай правінцыі Квебек, лідара «Кааліцыі Будучыня Квебека», канадцы атрымалі свайго Трампа.

Прынамсі, як і гаспадар Белага Дома, Лего прыйшоў у палітыку з вялікага бізнесу. Як і Трамп, ён ішоў на выбары пад вельмі папулісцкімі і ксенафобскімі лозунгамі, сцвярджаючы, што квебекцы «маюць права абараняць нашы каштоўнасці». У прыватнасці, палітык абяцаў скараціць прыём імігрантаў у Квебек на 20% і высылаць тых уцекачоў, якія не змогуць прайсці тэсты на веданне квебекскіх каштоўнасцяў і на французскую мову пасля трох гадоў знаходжання ў правінцыі. Такая праграма спадабалася большасці выбаршчыкаў.

Хаця Лего застаецца палітыкам рэгіянальнага калібру, яго поспех выклікаў вялікі рэзананс па ўсёй Канадзе. Навіны з Квебеку эксперты разглядаюць як чорную метку канадскаму федэральнаму прэм'еру-лібералу Джасціну Трудо, адміністрацыя якога выказала заклапочанасць вынікамі галасавання.

Абмяркоўвае трыумф Лего і Францыя, дзе традыцыйна цікавяцца працэсамі ў франкамоўным Квебеку. Вікторыю папуліста вітала Марын Ле Пэн, хаця сам Лего аспрэчвае кантакты з ёю. Напрыканцы цікавы факт: упершыню за 30 гадоў на выбарах у Квебеку нават незалежнікамі не ўздымалася пытанне неабходнасці абвяшчэння незалежнасці. Гэтую тэму пасунула на другое месца пытанне іміграцыі.

### Міларад Додзік



Лідар баснійскіх сербаў у чарговы раз перамог на выбарах у сербскім кантоне Босніі, атрымаўшы 53 працэнты галасоў. Гэтым разам у дадатак да пасады прэзідэнта кантону ён павінен заняць пасаду кіраўніка ўсёй Босніі.

Паводле Дэйтанскіх дамоваў (1995) прэзідэнтам Босніі і Герцагавіны па чарзе становіцца кожны з трох сяброў так званага «Дзяржаўнага прэзідыуму», якія прадстаўляюць, адпаведна, сербскую, мусульманскую і харвацкую грамады. Перспектыва прэзідэнцтва Додзіка выглядае як нонсэнс, паколькі сам будучы прэзідэнт не хавае, што выступае за ліквідацыю такой дзяржавы, як Боснія і Герцагавіна. Увогуле, абяцанне правядзення плебісцыту наконт выхаду сербаў з Босніі было адным з пунктаў яго выбарчай кампаніі.

З улікам напружанай сітуацыі на Балканах, ад Додзіка можна чакаць чаго заўгодна. Больш за тое, не будзе супраць такога сцэнару і Сефік Джаферавіч, прадстаўнік мусульман у Дзяржпрэзідыуме. Няма сумневаў, што любы замах на змест Дэйтанскіх дамоваў гарантуе новую міжэтнічную вайну. У сувязі з гэтым пачаліся размовы пра неабходнасць змены баснійскай Канстытуцыі, адзін з параграфаў якой павінен забараніць мясцовыя плебісцыты.

Аднак па-сутнасці такая папраўка таксама будзе замахам на Дэйтанскія дамовы, што можа падарваць мір. Сітуацыя непрадказальная.

# Новыя імёны ў спісе ахвяраў Халакосту

Марат ГАРАВЫ

**Спіс ахвяраў Халакосту ў Кобрыне папоўніўся трыма імёнамі. Гэта Шая, Абрам і Шмуэль Віленскія, якія загінулі ў горадзе падчас Другой сусветнай вайны.**

Пра гэта распавёў пляменнік ахвяраў нацызму, грамадзянін ЗША Уры Віленскі, які разам з жонкай Донай ладзіць вандроўку па габрэйскіх мясцінах Беларусі.

Уры і Дона — навукоўцы з Чыкага. Ён — прафесар у галіне штучнага інтэлекту і складаных сістэм, яна — прафесар у галіне медычнай псіхалогіі.

Уры шмат гадоў вывучае свае карані. Прычым па лініі бацькі ён ведае свой радавод аж да 14 калена, а па лініі маці — да прапрадзеда.

Сярод сваіх кобрынскіх продкаў спадар Уры згадаў прадзеда-рабіна, зацятага сіяніста Ёсэфа Віленскага, які з'ехаў у Амерыку ў 1907 годзе, і ягоную жонку Лею Берг, што засталася ў Кобрыне, а таксама дзядулю і бабулю Шрагу Файвеля Віленскага і Шэву Чвейхоўскую, якія загінулі ў полымі Халакосту.

У міжваенны час сённяшняя вуліца імя Аляксандра Суворава ў Кобрыне насіла імя нацыянальнага героя Польшчы, кіраўніка Кобрынскага паўстанцкага атраду і Нацыянальнага ўраду ў Варшаве падчас нацыянальна-вызвольнага паўстання супраць расійскага царызму 1863–1864 гадоў Рамуальда Траўгута. На вуліцы Траўгутавай, 33 бабуля з дзядулем мелі сваю лаўку, дзе гандлявалі бакалеяй. Прычым большай камерцыйнай жылкай і дзелавой хваткай вылучалася менавіта бабуля Шэва, зазначыў навукоўца.

Прыкладна ў 1933 годзе ля гэтага дому быў зроблены здымак, на якім бацька спадара Уры Мардэхай стаіць разам са сваімі малодшымі братамі васьмігадовым Шаям, шасцігадовым Абрамам і чатырохгадовым Шмуэлем. У 1934 годзе Мардэхай эміграваў у ЗША, а ягоныя малодшыя браты засталіся ў Кобрыне і загінулі падчас акупацыі гораду нацыстамі.

Уры Віленскі прагледзеў спіс ахвяраў Халакосту ў кнізе «Памяць. Кобрынскі раён» і не знайшоў там імёнаў Шаі, Абрама і Шмуэля Віленскіх. І гэта невыпадкова, бо ў кнізе прыведзены спіс не больш за 550 ахвяраў Халакосту, у той час як па афіцыйных дадзеных падчас акупацыі з 16 тысяч даваенных жыхароў гораду нацысты забілі 6 900 чалавек, у асноўным габрэяў. Вось чаму спадар Уры прапанаваў супрацоўнікам Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя Аляксандра Суворава ўнесці імёны ягоных дзядзькоў у спіс мірных жыхароў-габрэяў, забітых у горадзе нацыстамі ў 1941–1944 гадах.

Такія ж захады Уры Віленскі зробіць і ў бок Нацыянальнага мемарыялу Катастрофы і Гераізму еўрапейскага габрэйства «Яд ва-Шэм» у Іерусаліме (Ізраіль).

Бацька спадара Уры Мардэхай Віленскі даследаваў габрэйскую мінуўшчыну, быў прафесарам гісторыі Габрэйскага ўніверсітэта ў Іерусаліме на гары Скопус, Габрэйскага каледжу ў Бостане і Гарвардскага ўніверсітэта (абодва ў ЗША). Сярод тэмаў, якія вывучаў навукоўца, — перыяд ІІ Іерусалімскага храму (348 г. да н.э. — 70 г. н.э.), гісторыя габрэяў Расійскай імперыі, а таксама хасідзім і мітнагдзім як напрамкі юдаізму.



Уры і Дона Віленскія каля Кобрынскай сінагогі



На гэтым здымку 1933 года бацька Уры Віленскага Мардэхай са сваімі малодшымі братамі Шаям, Абрамам і Шмуэлем, якія загінулі ў Кобрынскім гета падчас Другой сусветнай вайны

Дарэчы, падчас працы ў Габрэйскім універсітэце ў Іерусаліме бацька пазнаёміўся з будучай жонкай і маці спадара Уры, якую звалі Сара. Яна нарадзілася ў Цфаце — адным з чатырох гарадоў, святых для габрэяў, у сям'і, сем каленаў якой стала жылі ў гэтым вядомым сваімі мудрацамі і непаўторнымі краявідамі месцы на адной з гор Верхняй Галілеі. Дарэчы, продак Уры Віленскага ў 14 калене таксама жыў у Цфаце, а другі продак у 10 калене — знакаміты Ём-Тоў Ліпман-Геллер — у сярэдзіне XVII стагоддзя быў рабінам у Кракаве.

У 1967 годзе разам з бацькам, які вывучаў архівы і бібліятэкі Масквы, Ленінграда і Кіева, 12-гадовым хлопчыкам Уры наведаў Савецкі Саюз. З гэтай вандроўкі на ўсё жыццё запомніў некалькі фраз па-руску: «Как живут ударники?» — «Ударники живут хорошо!» Дарэчы, у Уры Віленскага ўдарнікі чамусьці атаясамліваюцца з шахцёрамі...

Навукоўца распавёў, што ягоныя продкі разам з бацькам Мардэхаем у 1930-я гады жылі ў Кобрыне на вуліцы Ратненскай (зараз Інтэрнацыянальная) каля дому мясцовага рабіна Ісака Юзла Яхаса. Дарэчы, калі ў верасні 1939-га горад апынуўся пад Саветамі, гэтая вуліца, дзе спрэс жылі тутэйшыя габрэі, атрымала імя вядомага габрэйскага пісьменніка Іцхака Лейбуша Пераца. Аднак мясцовыя ўлады хутка адмовіліся ад такой назвы, якая падалася ім залішняй, і дзесьці напрыканцы 1940 — напачатку 1941 года гэты тапонім знік з мапы гораду — вуліца Пераца была перайменаваная ў Інтэрнацыянальную...

Уры і Дона Віленскія падтрымалі ініцыятыву мясцовай інтэлігенцыі пра неабходнасць усталявання ў цэнтры Кобрына сціплага сімвалу памяці гараджан пра тых, з кім яны паўтысячы гадоў жылі разам адной сям'ёю. Гэткім сімвалам можа стаць невялікая пластычная кампазіцыя «Удзячныя кабрынчане сваім землякам-габрэям», у якой будзе адлюстраваны больш чым 500-гадовы ўнёсак мясцовага габрэйства ў гісторыю места, амаль поўнае знішчэнне тутэйшай габрэйскай супольнасці падчас Другой сусветнай вайны, а таксама той факт, што значная частка камяніцаў у гістарычным цэнтры Кобрына некалі належала сем'ям габрэяў...

Дарэчы, падобны мемарыяльны знак быў усталяваны каля 15 гадоў таму ў гарадскім пасёлку Любча Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці.

Як вядома, з гістарычнай Кобрыншчынай непасрэдна звязаныя лёсы многіх выбітных беларускіх габрэяў, у тым ліку першага прэзідэнта Дзяржавы Ізраіль Хаіма Вейцмана і амерыканскага матэматыка Оскара Зарыскага.

Уры і Дона Віленскія выказалі падзяку вядомай даследчыцы айчыннай спадчыны, былой дырэктарцы Навагрудскага гістарычна-краязнаўчага музея і стваральніцы ў Навагрудку Музею габрэйскага супраціву Тамары Вяршыцкай, якая суправаджала вандроўнікаў падчас іх падарожжа па Беларусі, супрацоўнікам Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя Аляксандра Суворава Лідзіі Курашовай, Ганне Чэб і Алене Рысь, а таксама кобрынскаму краязнаўцу Віктару Бордзюгу, якія цёпла віталі нашчадкаў кобрынскіх габрэяў, адказалі на іхныя пытанні, ахвотна дапамагалі адшукаць даваенныя адрасы і на развітанне падаравалі амерыканскім навукоўцам кнігу «Памяць. Кобрынскі раён».



Гмах былой Кобрынскай сінагогі — сімвал больш чым 500-гадовай прысутнасці габрэяў у жыцці Кобрына. Дарэчы, гэтая святыня іудаізму вылучалася ва ўсёй Усходняй Еўропе сваім прыгожым інтэр'ерам і вялікімі памерамі.

« Працяг.
Пачатак у № 36





# У пошуках рэнамэ,

## альбо Яшчэ адзін ліст да Зянона

**Падарожнае эсэ**

Славамір АДАМОВІЧ

### Беларускі сектар Газа

Дарагі дзядзька Зянон! Калі па вяртанні з чужыны будзеце раптам ехаць маім шляхам з Астраўца на Варняны, дык няхай ваш кіроўца будзе асабліва ўважлівы першыя 2 кіламетры ад вёскі Малі. На гэтым звілістым участку дарогі я налічыў аж 5 (пяць!) прыдарожных крыжоў-памятак. І, як бы ні хацелася, выруліўшы з-за павароту, націснуць на газ — не трэба, асадзіце шафёра...

За Варнянамі адкрываецца від на аграмадныя коміны Беларускай АЭС і сталёвыя мачты высакавольтных электраліній, п\на якіх яшчэ не нацягнутыя драты...

Калі я праязджаў праз нашу заходнебеларускую вёску Газа, пра якую я ніколі дагэтуль не чуў і не чытаў, сама сабою ўзгадалася іншая Газа — горад і аднайменная правінцыя на Блізкім Усходзе, пра якія я чую ад часу, калі стаў сябе памятаць. На жаль, беларуская Газа выглядала не лепей за палесцінскую: закінутыя хаты, у зарослых дварах — іржавая тэхніка яшчэ 1960-х: трактар «Т-40», «вастраносы» легкавы «козлік» Горкаўскага аўтазаводу... Асаблівы жаль выклікаюць закінутыя хутары, якіх тут, на нашым крайнім Захадзе, яшчэ многа, яшчэ не знесеных, не зраўнаных з зямлёю, хоць даўно пакінутых памерлымі гаспадарамі ды іх нашчадкамі.

Я сам хутаранец, мой хутар дзесьці паміж Крывічамі і Будславам доўгія гады чакае маіх рэдкіх наездаў, і таму я не стрымліваюся, кідаю ровар пры дарозе і заходжу за перыметр аднаго з такіх хутароў — зарослага густой ліпеньскай травою, з праваленым дахам... Наведваць даўно пакінутую хату — гэта як зазіраць у разварочаную варварамі магілу: і вусцішна, і заварожвае...

На паваленай шафе, на занавешаных сатлелымі фіранкамі вокнах сядзяць вялізныя каляровыя матылі, якія заляцелі ў паміраючую хату, каб на імгненне ажывіць яе шапатлівымі махамі сваіх крылцаў. Я ўключаю на тэлефоне відэа і запісваю фантасмагарычныя гукі. Падымаю з падлогі пачак рудых і чорна-белых здымкаў, прысвойваю чужое жыццё, забіраю з сабой дух і памяць гэтага дома, і веру, што яны толькі ўзмоцняць маю паганскую душу, а я дам ім новае жыццё... Іду ў іншы пакой, тут была майстэрня цеслі, вузкі стол (сталярка) пры сцяне, з якога знята і адкручана ўсё, што можна было адкруціць. Тут жа — кубло пад сала, з прыкарэлай на дне і сценках соллю, якой як найменш гадоў 30 з часу, калі апошні раз гаспадыня даставала з яе кавалак бялюткай кашэрнай беларускай свініны.

Але самае дарагое і цудам дагэтуль не выцягнутае з хаты — куфар з пляскатым вечкам, цалкам спраўны, акантаваны тоўстай бляхай, жоўценькі і сухі ў сваёй пустой сярэдзіне. Гаспадарскае рыззё даўно раскіданае і тлее на падлозе.

Яшчэ адна асаблівасць гэтага дому — вялізны, на ўвесь перыметр хаты, пограб-падвал са зручнымі шырокімі сходамі, глыбінёю як даросламу стаць у поўны рост і «чорным» выхадам у двор, цяпер завалены ламаччам. Вось гэта я разумею — сапраўдны партызанскі хутар! Гэта мне зноў нагадала палесцінскі сектар Газа і тыя хады, якія палесцінцы перыядычна пракопваюць у Ізраіль, а ізраільцяне іх перыядычна ўзрываюць.

Калі ўжо выходзіў з хаты, зазірнуў на варыстую печ. На ёй сярод іншых лахманоў ляжаў вялізных памераў руды кажух, — ляжаў як жывы, як толькі ўчора скінуты з гаспадарскага пляча. Я сцягнуў яго з лежака, пакратаў аўчыну і прыкінуў на свае 1,68. Кажух быў мне па пяты, цэлы, і зімы дзве яго можна было яшчэ аднасіць, адно што аўчынны волас аслабеў у корані і вылазіў з гнязда, калі добра патаргаць за касмыль. «Ну ды якія цяпер зімы», — падумалася мне, і я закінуў гаспадаровы кажух назад на печ.

### Дзяўчына на скрыжаванні і мужычок з сярпом, альбо Як я праязджаў уздоўж БелАЭС

Калі я па дарозе з Газы набліжаўся да развілкі на Вільню, Полацак і Мінск, заўважыў бландынку ў злёгку крэмавай сукенцы і белых вінтажных басаножках. Нечакана ёкнула і затахкала сэрца: а раптам гэта дачка мая?! Спешыўся, перайшоў з роварам на той бок дарогі, на якім стаяла «яна — выдумка маёй галавы» (эпіграф да верша Максіма Багдановіча «Вераніка»). Паздароўкаўся, каўтаючы камяк незразумелага хвалявання ў горле, папытаўся, куды мне ехаць, каб патрапіць на АЭС. Дзяўчына, прыязна ўсміхаючыся, адказала, што яна «не местная» і таму не ведае. Не ведаў і я, што менш чым праз гадзіну зноў сустрэну яе — пад касцёлам у Гервятах.

Тым часам мой велатрып працягваўся, я зноў круціў педалі па шашы «Вільня — Менск», і насустрач мне, леваруч па трасе, пачала насоўвацца свежаўзнятая высотная пара бетонных труб-комінаў. Я перыядычна спыняўся і рабіў здымкі дагэтуль нябачаных у Беларусі пейзажаў на фоне Атамнай Веранікі, у чэраве якой ужо хутка пачнуцца працэсы апакаліптычных маштабаў. А пакуль праваруч уздоўж трасы ішло жніво — жалі нарэшце даспелыя, але нізенькія і слабыя ячмень і пшаніцу.

Пабачыў камбайнёра з малым сынам у кабіне. Бацька ўвесь час прыпадымаўся з крэсла і ўглядаўся ў работу жаткі, рэгуляваў вышыню і хуткасць ходу ротарнага механізму. І ў гэты момант я востра пазайздросціў гэтаму камбайнёру, і прыгадаў жніво 1980-га і сябе памочнікам камбайнёра на камбайне «Ніва», і жытнёвае поле паміж вёскай Пасынкі, якая тады называлася Сельгасхіміяй, і вёскай Няверы — цяпер мёртвай і адгароджанай ад шашы на Будслаў жоўта-зялёным штыкетнікам.

Мімалётныя сантыменты, набеглыя, як дажджавая хмарка, пад націскам супрацьлеглых эмоцыяў згарнуліся і зніклі, я зноў засяродзіўся на мэтах вандроўкі, дарожных дэталях і навакольным пейзажы. Я мяркую, што на добры толк гаспадара, які думае пра экалогію і здароўе сабе падобных, ужо сёння сельгасугоддзі вакол АЭС у радыусе кіламетраў пяці як найменей трэба аддаваць лясгасам, каб тыя ў сваю чаргу заняліся высадкай лесу на вызваленых землях. Пакуль жа метраў за трыста ад новапаўсталых комінаў Атамнай Веранікі касілі на корм скаціне рапс, а праз дарогу жалі збожжа. Каля я пад'язджаў пад знак «Беларуская АЭС», прыглядзеўся — і што я ўбачыў?! Малады мужычына, гадоў 30-ці з лішкам, самым сапраўдным сярпом збіваў недажатыя камбайнам касмылі ячменю пры самай шашы. Спыніўся і сказаў, ці не лепш было б касой, на што мужычок адказаў: па касу далёка ісці. На тым і развіталіся: мужычок з сярпом на фоне АЭС вярнуўся да сваёй бессэнсоўнай работы, я паехаў далей, набліжаючы сябе да мэтаў сваёй вандроўкі.

Праваруч ад мяне стаяў на ўзбочыне пасажырскі «Мерседэс» з расійскімі нумарамі і нейкімі бландынкамі ў салоне. Я тармазнуў і пачаў фотафіксацыю, рыхтуючыся да разборак з вадзіцелем. Але нічога, абышлося, і я паруляваў далей. Метраў праз трыста чарговая макабарычная карціна на фоне ўсё той жа БелАЭС: два мужыкі і баба віламі-даўгаручкамі — так-так, таго самага крою віламі, якія былі на ўзбраенні мужыкоў-касінераў Каліноўскага! — зграбаюць у стог не сцюкаваныя копы саломы. Пакуль я фоткаў гэтую тройку работнікаў, падкаціў да іх начальнічак, і пакуль ён вылазіў са сваёй машынкі, цыркнуў я скрозь зубы на гарачы асфальт дарогі і паехаў, кіламетры праз паўтара ад АЭС павярнуўшы ўлева, на Гервяты, да якіх заставалася 5 кіламетраў. Хвілін праз дваццаць я быў на месцы і накіраваўся да знакамітага касцёлу, у якім у далёкім ужо 2001-м годзе хрысціў сваю гадавалую дачку разам з яе маткай. Абрад, калі я правільна запомніў, праводзіў нейкі малады ксёндз, нібыта яе траюрадны брат. Аднак такога ксяндза я не знайшоў, а той, які служыў у Гервяцкім касцёле ў 2001-м, памёр у мінулым 2017-м і пахаваны тут жа на цвінтары.

Расхваляваны няўдачай, бо спадзяваўся пачуць ад ксяндза хоць што-небудзь пра дачку, выйшаў з касцёлу і напароўся на групу турыстаў, сярод якіх была і тая дзяўчына ў белых басаножках, што паўгадзіны таму стаяла на скрыжаванні. Сяброўка ж яе, брунетка, заўважыла на маёй чорнай безрукаўцы кірылічны алфавіт і загаварыла нешта пра «рускія буквы». Я тут жа рэзка адпарыраваў, на ўсялякі выпадак удакладніўшы, ці не з Расіі яны. А калі пачуў станоўчы адказ, дык папярэдзіў, каб яны былі асцярожныя, завязваючы размовы з тутэйшымі, бо ў нас, кажу, народ не любіць, калі ім няправільна адказваюць на пытанне: «Чый Крым?»

Купіў у краме бутэльку кефіру і батон, перакусіў ды паехаў далей.

У Старой Рудні павярнуў на Соргаўцы, асфальт скончыўся і пачалася выбоістая гравейка. Ехаць было цяжка, пераязджаў з краю на край дарогі, шукаючы раўнейшага ўчастку, але меркаванае спатканне з дачкою гнала наперад. У Забельцах спыніўся ўдакладніць дарогу і нечакана даведаўся ад добра падбітай жыццём кабеты, што дачка мая з маткай акурат дома, у бабулінай хаце ў Соргаўцах, і сёння яны хадзілі ў лес па грыбы. Ехаць стала лёгка, хоць і трывожна: як жа мяне сустрэне дачка, якую апошні раз я бачыў у Вільні гадоў 15 таму, калі яшчэ жывы быў Сяргей Вітушка?

### Дачка, кош лісічак і нумар тэлефону

Калі ты не гадаваў сваё дзіця, не хваляваўся і не цешыўся разам з ім, не чытаў яму сваіх вітальных вершаў, не ўкладваў спаць і не будзіў у школу, не хадзіў на бацькоўскія сходы і на апошні званок, то і не чакай, што будуць абдымкі і слёзы радасці пры сустрэчы...

Працяг на стар. 12 »

« Працяг.
Пачатак на стар. 11

За рогам хаты маці дачкі перабірала вялізны кош свежанабраных лісічак. На мой голас дачка выйшла з дому і прычыніла за сабою дзверы. Выглядала яна на падлетка, хоць у красавіку сёлета ёй ужо споўнілася 18. Нічога ад маткі ў ёй не было — такі ж, як і ў мяне, смуглявы авальны твар, шэрыя з зялёным адлівам вочы, рымскі нос і спецыфічны сківічны прыкус, як у бацькі, і барда Высоцкага. Толькі акуляры мяне бянтэжылі, і я варажыў пра сябе, ад каго ж яна ўспадчыніла дрэнны зрок? Акуляры заміналі мне ўглядацца ў яе дзявочы і надзіва чысты твар без адзінай болькі. У яе ўзросце я пакутаваў ад хацімчыкаў, якія цэлымі калоніямі раслі на лбе, шчоках і скронях, лопаліся белай сукравіцай і пераўтвараліся ў струпы. Толькі ў арміі прайшла гэтая бяда пераходнага ўзросту.

Відаць, лягчэй мне было гаварыць са сваім першым куратарам КДБ СССР у далёкім 1986-м, як цяпер з роднай дачкой. Яна запэўнівала, што нічога пра мяне не ведае і не чытала, у сацсетках яе няма, і таму за маімі шматлікімі акаўнтамі яна не сочыць. Я ліхаманкава шукаў тыя патрэбныя словы і фразы, якія могуць дапамагчы мне разгаварыць яе, а яна неяк недакорліва нагадвала, што зусім мяне не ведае і не памятае, і для яе гэтая сустрэча нечаканая і бянтэжлівая. Што ж, на такую заўвагу мне не было чым запярэчыць. А каб і было, то і тады не магло быць і мовы пра нейкія пярэчанні і апраўданні. Заставалася адно: слухаць жывы голас дачкі і дзякаваць Лёсу, што ён давёў мяне да гэтага спаткання.

Пасля язды па гравійцы душыла смага і перасыхала ў горле, я папрасіў напіцца, і першы раз у жыцці маё дзіця вынесла мне з хаты паўбутэлькі вады, якую я тут жа ўсю і выпіў, выціраючы натруджанай далонёю рот, потны лоб і вочы, у якіх самі сабою набрынявалі слёзы.

Як на злое, акурат перад спатканнем села батарэйка мабілы, і ні запісаць сустрэчу, ні зрабіць сэлфі з дачкою я не змог. Дый не пэўны, ці захацела б яна, ці дазволіла б?

Не ведаю, як доўга цягнулася нашая размова: 20 хвілін, паўгадзіны ці больш, але я паспеў пачуць пэўне самае недарэчнае, што толькі можна было пачуць пры сустрэчы: матка ейная, настаўніца беларускай гімназіі ў Вільні, вывучыла на выдатна маю дачку не беларускай мове, і не замежнай якой, і нават не летувіскай, сярод носьбітаў якой яны з Ксеняй жывуць столькі гадоў, а... рускай. Ды так вывучыла, што ў гэтым годзе звазіла яе ў Маскву на нейкі лінгвістычны конкурс, і там яна ўзяла першае месца. Можаце сабе ўявіць, Зянон Станіслававіч, з якой прыкрасцю і гаркатою ў грудзях слухаў я гэтую навіну?

Але я нічога не сказаў дачцэ, я толькі спытаўся, ці гаворыць яна па-нашаму. І дачка адказала, як адказваюць многія нашы землячкі: так, гавару, але калі хачу і лічу патрэбным. Пасля гэтага моманту ў размове я адчуў, што час развітвацца, і папрасіў у дачкі нумар мабільнага, слаба верачы, што атрымаю яго. Але яна зайшла ў хату і вынесла мне картку беларускага мабільнага аператара, з якой я і спісаў дарагія мне сем лічбаў.

Назад да Старой Рудні я ляцеў, не разбіраючы дарогі. Сляпні не адставалі і секлі мяне ў голую спіну без ніякага жалю. Пачынала змяркацца. На беразе Ашмянкі ў Старой Рудні сядзела моладзь і цадзіла піва. Я знайшоў вясковы пляжык і з асалодаю кінуўся ў хуткую плынь рэчкі. Фізічная стома выходзіла з цела, а з душы — прыкрасць ад пачутага. Напярэдзе чакаў рывок да Жодзішак, дзе я спадзяваўся заспець дома свайго даўняга таварыша Алега Мізулу і пераночыць у яго ж.

**Працяг будзе**

# Як у каралеўскім горадзе маладыя таленты шукалі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У Гродна прайшоў Дзень беларускай дзіцячай творчасці — прыватная ініцыятыва па падтрымцы маладых творчых калектываў у абласных гарадах.**



Дуэт «Грымаскі»

Свята ўключыла ў сябе конкурсную праграму, элементы анімацыі, забавы ды выступленні вядомых артыстаў і творцаў.

— Мы самі часта сутыкаемся з тым, што схадзіць з дзецьмі на штосьці цікавае, пазнавальнае і адначасова беларускае бывае складана, хоць цяпер і з'яўляецца шмат мерапрыемстваў. І мы прыдумалі канцэпцыю і зладзілі свята дзіцячай беларускай творчасці, — распавёў «Новаму Часу» канцэпцыю свята яго арганізатар і кіраўнік інтэрнэт-крамы PRASTORA.BY Алесь Квіткевіч.


Алесь Квіткевіч з дачкой Марай

— Мы правядзём такія святы ў кожным абласным горадзе, каб паглядзець, чым жывуць мясцовыя дзіцячыя калектывы.

Для ўдзелу ў конкурсе ўсе гурты праходзілі адбор, і перавага была аддадзена тым, чыя творчасць прасякнутая беларускай тэматыкай, хаця ўвогуле конкурс адкрыты для ўсіх.

Першую частку праграмы склалі выступы канкурсантаў — іх набралася 11 асобных выступоўцаў і мастацкіх калектываў з Гродна. Вакальныя нумары, танцавальныя ансамблі, музычныя кампазіцыі — кожны з артыстаў меў свае непаўторныя адметнасці, таму вызначыць лепшага (а гэта рабілі наведвальнікі свята шляхам галасавання) было няпроста. Дарэчы, у якасці галоўнага прыза пераможцу чакала магчымасць запісаць на студыі гуказапісу песню, альбо, у выпадку перамогі танцавальнага калектыву, зняць кліп.

Аднак конкурсная інтрыга захоўвалася да вечара, і пакуль гледачы аддавалі свае галасы за маладых гродзенскіх талентаў, рэй узялі аніматары, мастакі, паэты і сталыя музыкі. Пра сакрэты стварэння выцінанак распавяла майстарка з Маладзечна Вольга Бабурына. Галоўнай паэтычнай разынкай дня стала чытанне вершаў жывой легендай — гродзенскай паэткай Данутай Янаўнай Бічэль-Загнетавай. Таксама свае творы прачыталі маладыя пісьменніцы Юлія Алейчанка і Дар'я Бялькевіч. Каб паказаць сваё баявое майстэрства і распавесці пра старажытную зброю і даспехі беларускіх рыцараў, з Мінска прыехалі рэканструктары Юрый Усціновіч, Андрусь Дундукоў і Алесь Пятроўскі ў суправаджэнні сапраўдных сярэднявечных музыкаў. А крыху пазней далі джазу і не толькі ўжо музыкі сучасныя: дуэт «Дзівабор», Таццяна Свістунова і «Кветка-Мара», чароўная і загадкавая Дзіяна Шыманоўская, Андрусь Такінданг і гурт «Рэха», а таксама Раман Абрамчук і яго анты-каверavailable «Гарадскі вал».

І вось настаў час абвясціць лепшага з лепшых маладых выступоўцаў (альбо калектываў) з Гродна.

Трэцяе месца па выніку галасавання дасталася крануальнаму дуэту маленькіх скрыпачоў «Грымаскі».

Другую прыступку заняла, бадай, самая экстравагантная выканаўца на флейце Ева Венская.

Найбольшую ж колькасць галасоў атрымаў харызматычны дзіцячы ансамбль народнага танца «Фолк Фрэш».

Дзякуючы таму, што да ініцыятывы далучыўся генеральны партнёр — сетка крам «Карона» — мерапрыемствы атрымалася зрабіць не толькі бясплатнымі, але і ўзнагародзіць уладальнікаў прызавых месцаў салодкімі пачастункамі. А студыя скураных вырабаў «Макей» паспрыяла таму, каб педагогі і кіраўнікі калектываў-пераможцаў атрымалі ў падарунак дыхтоўныя нататнікі ручной працы са скуры.

**Фота аўтаркі**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №922

Падпісана да друку 12.10.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.